# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

12 лютага 2003 № 49 кошт 1 літ




*Будучы прэзыдэнт Літоўскай Рэспублікі Раландас Паксас. 1960 г.*

*У сьнежні мінулага году Літва абрала новага прэзыдэнта. Ім стаў Раландас Паксас, кіраўнік лібіральна-дэмакратычнай партыі. У сваіх першых інтэрвію новаабраны прэзыдэнт запэўніў, што будзе прытрымлівацца палітычнага курсу свайго папярэдніка Валдаса Адамкуса. Спадзяемся, што й новы прэзыдэнт будзе ўдзяляць дастаткова ўвагі праблемам народаў, што жывуць у Літве.*

## Пазабюджэтныя сродкі фармуюцца ад продажу зброі

Новы 2003 г. зьявіцца напружаным як для прадпрыемстваў вайскова-вытворчага комплексу, так і для юрыдычных асобаў, якія спэцыялізуюцца ў сфэры рэалізацыі спэцыфічных тавараў (СТ). Пад апошнімі разумеецца прадукцыя вайсковага й двайнога прызначэньня. Паводле крыніцаў, блізкіх да ўрадавых колаў, арыентыровачны кошт (нават у Кабінеце міністраў ня ведаюць дакладнай лічбы) за атрыманыя ад продажу айчынных СТ і ў якасьці пасрэдніцкіх паслугаў за рэалізацыю расейскага ўзбраеньня пазабюджэтны фонд прэзыдэнта Лукашэнкі павялічыцца на суму роўную 15-20 % ад бюджэту краіны на 2003 г. Зрэшты, спадзявацца, што грошы, атрыманыя ад продажу СТ будуць празрыстыя, не даводзіцца. У 2002 г., адказваючы на пытаньні парлямантарыяў, Аляксандар Лукашэнка даў зразумець, што прэзыдэнцкі фонд зьяўляецца не кантраляваным з боку дзяржструктураў і фінансаваньне з гэтага рахунку зьдзяйсьняецца згодна ягонага асабістага загаду. Таму няма гарантыяў, што дадзеныя сумы ня будуць разьмяркоўвацца правячым рэжымам на падтрыманьне самога рэжыму ў цяперашніх цяжкіх эканамічных ды сацыяльна-палітычных умовах. Усё гэта стварае добрую базу для злоўжываньня службовым становішчам і карупцыі сярод чыноўнікаў вышэйшага эшалону ўлады. Ня выключына, што дзеля падтрымкі заняпалай эканомікі будзе зробленая спроба павялічыць намэнклятуру й колькасьць прадаванага за мяжу СТ.

*Працяг на старонцы 3*

## *Мястэчкі Віленскага краю:*

# Майшагала



*Вучні Майшагальскай сярэдняй школы. Гульня «Зарніца». 1968 г.*

Майшагала – старажытнае мястэчка, разьмешанае на адлегласьці 25 км ад Вільні ў паўночна-заходнім кірунку каля ажыўленай аўтамабільнай трасы Вільня – Панявежыс – Рыга. Гісторыя Майшагалы цесна зьвязаная з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага. Быў тут замак, жылі князі й каралі з сваімі жонкамі й дзецьмі. Тут, перад Вільняй, адбылася вялікая разьня з крыжакамі. Тут напрыканцы траўня 1377 г., каля Замкавай гары каралевы Боны (у заходняй ейнай частцы), быў зь вялікімі паганскімі ўшанаваньнямі пахаваны (спалены разам з канём і зброяй) вялікі князь Альгерд, сын Гедыміна й бацька Ягайлы. Можна нават дапусьціць, што менавіта ў Майшагале й нарадзіўся вялікі князь і кароль Уладыслаў Ягайла... Аднак ніхто з гісторыкаў ня хоча задумацца над гэтым: ні ў Польшчы, ні ў Беларусі, ні ў самай Літве. (Не спрыяе, як мне здаецца, адраджэньню гістарычнай сьвядомасьці й помнік “князю Альгірдасу”, пастаўлены сёлета ў верасьні на Замкавай гары ў Майшагале навачаснымі літоўскімі разьбярамі: можна падумаць, што яго зрабілі марсіяне ці яшчэ нейкія больш далёкія прышэльцы). А варта было-б задумацца, чаму ў 1387 г. той самы Уладыслаў Ягайла, прыйняўшы незадоўга перад тым хрысьціянства, ўздумаў утварыць незалежную рэспубліку вядомы беларускі дзеяч Алесь Бурбіс. Рэспубліку тую разагналі казакі.

У 1915 г. праз Майшагалу праходзіла лінія фронту. Ажно да II Сусьветнай вайны ў мястэчку былі тры вялікія нямецкія могілкі. Цяпер няма ані знаку: павывозілі за савецкія часы з тых могілкаў помнікі, перарабілі, параспрадалі, – і стаяць яны хто-дзе пад іншымі імёнамі...

У міжваенныя гады за два-тры кілямэтры на поўнач ад Майшагалы праходзіла польска-літоўская мяжа. Пасьля Другой сусьветнай вайны мястэчка было зьнішчанае дашчэнту. Практычна ўсё жыдоўскае насельніцтва (300 жыдоў) было забранае й забітае пад Вільняй. Даваенная польская інтэлігенцыя, памяжоўнікі ды багацейшыя людзі паўцякалі хто-куды на Захад, а хто ня змог – апынуліся ў ГУЛАГу. Пяцёра афіцэраў польскай арміі з Майшагальскай гміны злажылі свае галовы ў Катыні. Ад усяго насельніцтва ў Майшагале засталося да 10 сем’яў былых батракоў пана Гоўвальда, сяк-так размаўлялі па-польску, стараліся навучыцца па-расейску – гэтак у пасьляваенны савецкі час было зручней. Пазьней у Майшагалу панаяжджалі людзі з суседніх вёсак, а таксама аселі й расейцы, каторыя не даехалі дадому зь Нямеччыны, а, можа, і не хацелі туды ехаць, бо ў Расеі ўсё было пабітае, разваленае, а тут Вільня пад бокам. Кожны з аседлых стараўся зрабіцца хоць-якім начальнікам, а калі не, дык хоць-бы прадаўцом, кандуктарам, шафёрам, міліцыянтам, пазьней – брыгадзірам ці стукачом. А яшчэ пазьней Майшагалу апанавалі літоўцы з-пад Шырвінтаў ды іншых мясьцінаў. Перад тым яны панабіраліся розных навукаў на розных курсах і парабіліся тэхнікамі, мэдыкамі, настаўнікамі. У 1986 г. у Майшагале было ўжо 1644 жыхары плюс 140 часова пражываючых. За гэтым часам у мястэчка на “вольнае пасяленьне” падкінулі больш за 150 маладых дзяўчатаў-“хімічак” з-пад Коўна, Шаўляў, Клайпэды ды іншых літоўскіх гарадоў. Яны зрабілі з Майшагалы другі Парыж, жывы плейбой. Многія з майшагальскіх мужыкоў пажаніліся з тымі дзяўчатамі, нават міліцыянты й саўгасныя чыноўнікі.



*Помнік князю Альгірдасу ў Майшагале. 2002 г.*

адзін зь першых касьцёлаў паставіў у Майшагале? Паставіў ён касьцёлы таксама ў Немянчынку, Медніках, Ваўкамежы, Крэве – але ня ў Вільні, Троках, Кернаве, Коўні. Чаму?

Насельніцтва Майшагалы праз увесь час было вельмі неспакойнае. Яшчэ царыца Кацярына, каб супакоіць народ, пасылала сюды сваіх апрычнікаў. Відаць, паводле даўняй завядзёнцы, у 1905 г. у Майшагале

Напрыканцы XX ст. у Майшагале пражывала 13 нацыянальнасьцяў: палякі, літоўцы, рускія, беларусы, украінцы, жыды, армяне, грузіны, комі, карачаеўцы, узьбекі, азэрбайджанцы, немцы. Немцы цяпер выехалі ў Нямеччыну, а жыды – у Ізраіль. Што тычыцца нацыянальных казусаў, дык іх у мястэчку ніколі не бракавала й не бракуе. Напрыклад, калі самы малады з майшагальскай сям’і Казлоўскіх рабіў сабе ў часе пачатку незалежнасьці пашпарт, яму сказалі: “Які-ж ты Казлоўскі, калі па літоўску слова “казёл” – “ошка”?” І запісалі яго Ошкінасам. Вось так цяпер у адной сям’і усе Казлоўскія, а адзін – Ошкінас.

Школа ў Майшагале пачала працаваць у 1945 г. Спачатку былі толькі тры клясы на рускай мове. Хочаш ня хочаш – усе тады былі піянэрамі, гальштукаў, праўда, яшчэ не было, а былі мэталёвыя зашчэпкі. Заўсёды ўрачыста, як кантычку, чыталі раённую газэту “По ленинскому пути”. У 1951 г. у Майшагале паўстала сярэдняя школа на рускай мове, у 1956 – у ёй узьніклі польскія клясы, а з 1957 г. – і літоўскія. Штопраўды, вучняў-літоўцаў у Майшагале не было, дык тагачасны дырэктар школы Людвік Млынскі знайшоў недзе ў Воранаўскім раёне дзяўчатак-літовак ды прывёз іх вучыцца ў Майшагалу. У 1992-93 нав. годзе літоўская школа ад расейска-польскай аддзялілася.

У мястэчку па-ранейшаму пануе полілінгвізм. У рускіх і літоўскіх клясах, хоць там і не выкладаецца польская мова, амаль усе дзеці ўмеюць гаварыць па-польску, большасьць зь іх няблага чытаюць і пішуць па-польску. Амаль усе мястэчкоўцы добра разумеюць беларускую мову, на сьвятах, асабліва на вясельлях, сьпяваюць шмат беларускіх песень. Праўда, у адрозьненьні ад жыхароў на паўднёвы ўсход ад Вільні, майшагальцы беларускай мовай (“простай мовай”) у размове ўжо не карыстаюцца.

*Працяг на старонцы 2*

Таварыства беларускай мовы Віленскага краю аб'яўляе збор сродкаў на памятны крыж Францішку Багушэвічу, які будзе ўстаноўлены на радзіме паэта, у Сьвіранах. Браткі-беларусы, хай кожны з вас адгукнецца ды зробіць свой пасільны ўнёсак на гэтую сьвятую справу. Ды паможа нам Бог!

Тэлефон для сувязяў: (+370 5) 244 99 92

## Уладзімер Пузыня



*У. Пузыня (першы зьлева) на падворку Мікалаеўскай царквы*

Уладзімер Пузыня знакаміты тым, што рэстаўруе старыя музычныя інструмэнты ды ўводзіць іх у культурнае жыцьцё Беларусі. Дзякуючы яму ўжо ў 1977 г. ў Беларусі загучала жалейка, у 1981 – дуда, крыху пазьней сурма й басэтля. У 1989 г. таленавіты майстар удасканаліў цымбалы, леру й шмат іншых інструмэнтаў, нават такія, пра якія ніхто ня ведае. Так, у 1993 г., дзякуючы яму, упершыню з XIII ст. загучаў хорум. Аднавіў яго сп. Уладзімер выключна паводле апісаньняў і малюнкаў ў старажытных кнігах. Свой незвычайны дамок, наш знакаміты рэстаўратар-музыка пераўтварыў у сапраўдную "беларускую хатку", у якой сустракаюцца й сумоўнічаюць аднадумцы, майстры культуры, літаратары, мастакі, - усе, каму не абыякавы лёс нашае нацыянальнае культуры. Мінулым летам сп. Уладзімер Пузыня наведаў Вільню, гасьцяваў у дамках ТБК, прысутнічаў на набажэнстве ў Мікалаеўскай царкве, для яго была зладжаная вандроўка па нашым пекным горадзе.

## "Па дарогах Літвы"

так называлася вандроўка, якую зарганізавала ТБМ Віленскага краю ў свой юбілейны 10-ты год існаваньня. Апрача сяброў Таварыства ў вандроўцы бралі ўдзел прадстаўнікі іншых беларускіх суполак. Маршрут быў такі: Вільня – Друскенікі – Коўна – Вільня. Аўтобус для вандроўкі выдзеліў Дэпартамант нацменшасьцяў Літвы, цяперашні дырэктар якога сп. Антанас Пятраўскас бачыць плённую працу сяброў нашага Таварыства.

Вандроўнікі пабывалі ў знакамітым Груцкім парку пад Друскенікамі, у які зьвезеныя з усёй Літвы помнікі й скульптуры нядаўняга часу савецкага таталітарызму. Агульная тэрыторыя парку 250 тыс. кв. м., экспануецца тут больш за 70 скульптураў. У будаўніцтва гэтага своеасаблівага мэмарыялу ўкладзена больш за 1 млн. даляраў. Уласьнік парку Вілюмас Малінаўскас арганізаваў на тэрыторыі парку таксама й свой бізнэс: купляе ў насельніцтва ягады й грыбы ды перапрацоўвае іх, за што атрымаў мянушку Грыбны Кароль. На ягоным прадпрыемстве стала працаваць да 200 чалавек, улетку падключаецца яшчэ 600.

Знаёмства з паркам пачынаецца з лакаматыва й прычэпленага да яго вагона – на такім энкэвэдэшнікі вывозілі ў перадваенны й пасьляваенны час насельнікаў Савецкай Літвы ў Сыбір. Затым мы пабывалі ў галерыі, дзе экспануецца мноства дакумантаў, здымкаў, экспанатаў савецкага часу. Пасьля прайшліся па драўляных насьцілах-сьцяжынках парку, пазнаёміліся зь ягонымі скульптурамі: Ленін, Сталін, Маркс, Дзяржынскі, Сьнечкус, вядомыя савецкія літоўскія рэвалюцыянеры, партызаны, падпольшчыкі... Дашчатая сьцяжына йдзе ўздоўж наўмысна пракапанага каналу, абнесенага калючым дротам, з драўлянымі вышкамі, зь якіх з рэпрадуктараў гучаць бадзёрыя савецкія мэлёдыі 50-х гг. Кожны ўспрымае ўсё гэта пасвойму. У парку можна добра падсілкавацца. Апрача добрых літоўскіх страваў гурманы могуць пасёрбаць (усяго за 1,1 літа) алюміневай лыжкай зь металёвай міскі боршч "Настальгія" або зьесьці катлету "Прощай, молодость", прыгатаваную з 60 % хлеба й 40 % мяса (кошт 3 літы). Аматарам кульнуць чарку паднясуць гарэлку ў гранёным стакане з выявай Сталіна й адметкамі ўзроўню: 100 гр. – "За Родину!", 150 – "За Партию!" і 200 – "За Сталина!"

Наступны прыпынак – Друскенікі, мястэчка-санаторый. Пра яго ўжо пісалася ў "Руні". Сапраўды, курортная гаспадарка тут сёньня ў заняпадзе. Надалей наш аўтобус скіроўвае ў Румшышкес пад Коўнам. Тут знаходзіцца знакаміты на ўсю Літву Музэй народнага побыту. Музэй пад адкрытым небам займае вялікую тэрыторыю, адлюстроўвае вясковы быт і культуру ўсіх этнічных рэгіёнаў Літвы.

**Юры Гіль**

## Вандроўка ў Горадню

Летась сябры ТБК арганізавалі вандроўку ў Горадню. Нашае знаёмства з Горадняй пачалося з прывакзальнай плошчы, а дакладней з дубовай памятнай табліцы на вакзальным муры, прысьвечанай паўстаньню 1863 г. Гісторыя гораду насычаная мноствам драматычных старонак. Ён быў сьведкам Паўночнай вайны, вайны 1812 г., Першай і Другой сусьветных войнаў, паўстаньняў 1794-95 гг., 1830-31 гг., 1863-64 гг., рэвалюцыяў. Побач з вакзалам агледзілі рэзыдэнцыю й парк Станіслава Панятоўскага, рушылі да Замкавай гары – сэрца старажытнай Горадні. Тут муры Старога замка й пазьнейшыя дабудовы, у якіх месьціцца музэй. Пераходзім па масьце на другі бок Нёмна, дзе ўзвышаецца Новы замак, збудаваны загадам Аўгуста III. Тадэвушам Касьцюшкам быў створаны паўстанцкі ворган кіраваньня. Зараз у Новым замку знаходзіцца гісторыка-археалягічны музэй і бібліятэка імя Карскага. Мы агледзілі выставу беларускіх фотамайстроў, пастаяннадзеючую экспазыцыю старажытнай зброі, а таксама творы мастацтва й прыкладнога мастацтва, якія былі перададзеныя ў музэй мытнікамі й памежнікамі.

Па некаторым часе мы былі на мейсцы, якое даўней называлася Старажытным рынкам. Калісьці тут узвышалася шмат архітэктурных помнікаў, разбураных людзьмі й часам, у іх ліку – Фарны касьцёл Вітаўта й Ратуша, сымбаль вольнасьці горада. Аднак ацалеў касьцёл і кляштар езуітаў, у комплекс якіх уваходзілі будынкі калегіюма, бібліятэка, аптэка, друкарня, жылыя карпусы й разматыя гаспадарчыя пабудовы. У 1725 г. на вежу-званіцу быў усталяваны гадзіньнік, які выконваў ролю гарадзкога, ён і па сёньня адбівае гарадзенцам час.

У Горадні жыў і працаваў этнограф Адам Багдановіч, бацька геніяльнага Максіма, тут жыла й пісала свае творы пісьменьніца Ажэшка (у Горадні дзейнічаюць музэі М. Багдановіча й Э. Ажэшкі). Захаваўся трохпавярховы з чырвонай цэглы будынак, у якім праходзілі паседжаньні Рады БНР. Вялікае ўражаньне пакінула найстаражытнейшая Барысаглебская царква, ці, як яе называюць, Каложа. Гэтая царква належыць да XII ст. і паводле часу свайго ўзьнікненьня стаіць на другім мейсцы ў Беларусі пасьля царквы Еўфрасіньні Полацкай у Полацку.



*Віленскія вандроўнікі перад старажытнаю Каложаю.*

Віленчукі пазнаёміліся ня толькі з гісторыяй і архітэктурай Горадні. Нас цікавілі й гарадзенцы, асабліва тыя, хто неабыякава ставіцца да мінуўшчыны й будучыні гораду і ўсяе нашае Бацькаўшчыны. Мы пазнаёміліся зь сябрамі Фонду імя Льва Сапегі, створанага ў 1992 г. Уладзімірам Хільмановічам і Віктарам Сазонавым. Фонд аб'ядноўвае вялікую сябрыну, займаецца распрацоўкай і рэалізацыяй разнастайных адукацыйных праграмаў, праводзіць культурна-асьветніцкія акцыі, навуковыя канфэрэнцыі, сэмінары, выдае кнігі, буклеты, бюлетэні ды інш. У сядзібе Фонду, дзе мы гасьцявалі, нам распавялі пра сучаснае жыцьцё гарадзенцаў, якое, на жаль, сёньня прыстойным не назавеш, распавялі пра дзейнасьць моладзі, якія актыўна абараняюць свае правы на працу, набыцьцё адукацыі – на будучыню. На заканчэньне сустрэчы Хільмановіч з Сазонавым выканалі нам пад акампанэмэнт гітары свае бардаўскія песьні.

Горадня ляжыць далёка ад Менску, але там адчуваецца той самы ўціск на ўсё нацыянальнае, на першыя парасткі дэмакратыі. Нашыя суразмоўнікі на ўласнай скуры добра адчуваюць гэты ўціск, але не здаюцца, верачь у лепшыя дні свайго роднага гораду і ўсяе нашае спакутаванае Радзімы.

**Павал Саўчанка**

# *Мястэчкі Віленскага краю:* Майшагала

*Працяг са старонкі 1*

Нельга абыйсьці ўвагаю й Майшагальскі Дом культуры. Гэта быў адзін з найвялікшых у сельскай мясцовасьці культурных установаў у Савецкай Літве. Збудаваны ён быў у 1976 г. Тут выступалі такія знакамітыя літоўскія артысты, як Нарэйка, Каўкайтэ, Канява ды інш. Прыяжджалі артысты зь Беларусі, Украіны, Польшчы й нават – з Нарыльску. Праводзіліся міжнародныя спартовыя баталіі, былі добрыя ўмовы для настольнага тэнісу, боксу, валейболу й баскетболу. У ДК быў паркет, паліраваныя сталы, шыкоўныя фатэлі, люстры, спортінвэнтар, музычныя інструмэнты, фотаапаратура, сцэнічныя касьцюмы, дарагая кінаўстаноўка й г. д. Прайснаваў Дом культуры нядоўга. Напачатку 90-х зусім заглох, а да 2000 г. зьнікла ўся ягоная багатая маёмасьць, нават паркет павыламывалі. Стаіць ён цяпер з наглуха забітымі дзьвярыма й вокнамі, ноччу, хоць вока выкалі, ніводнай лямпачкі не гарыць, а каму паскардзісься? Самі вінаватыя. Хто разумнейшы – ангельскую мову вучыць, робіць сяк-так дыплём ды гайда на Захад – талеркі мыць. І нікому не баліць, што мозгі на Захад зь Літвы сплываюць, і ці толькі зь Літвы?

**Юзэф Русакевіч**



*Майшагальскі Дом культуры. 2002 г.*

# Там, дзе мяне няма...

**16. Госьці з Горадні. Пра Грынкевічаў. Далейшая праца й паездка ў Эрфурт. У Варшаве. Жаніцьба Юркі Луцкевіча й нашая жаніцьба зь Лявонам Луцкевічам. Першыя гады сямейнага жыцьця.**

Прыяжджалі госьці з Горадні: Данута Бічэль-Загнетава, муж і жонка Пяткевічы (ён — выкладчык беларускай літаратуры ў Гродзенскім пэдінстытуце), мастак Ліпень ды інш. Мама асабліва цёпла сустракала гасьцей з Горадні. Хаця яна й жыла ў Вільні ад 1923 г., але Вільня не зрабілася ёй родным горадам. Роднымі мясьцінамі былі для яе Сакольшчына, дзе быў фальфарак ейнага дзеда Людвіка Садоўскага, і Горадня, адкуль паходзіў ейны бацька, дзе яна вучылася ў гімназіі, дзе далучылася да беларускага руху.

Неяк наведала маму Юзэфа Фалькоўская, з дому Грынкевічанка. Так ужо пакіраваў лёс, што маміны родныя былі цесна зьвязаныя з Грынкевічамі. Кс. Ф. Грынкевіч быў апекуном Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, у якім актыўны ўдзел брала Людвіка Сівіцкая (мая мама). Ягоная малодшая сястра Юза нейкі час выхоўвалася ў Альхоўніках. Фальварак быў невялікі, але добра загаспадараваны, і была магчымасьць памагаць бяднейшым сваякам, часта вельмі далёкім. У доктара Станіслава Грынкевіча, сярэдняга брата ксяндза, працавала выхавацелькай ягоных дзяцей маміна цётка Антаніна Садоўская. Доктар Грынкевіч працаваў у Вільні падчас нямецкай акупацыі ў паліклініцы, жыў зь сям'ёй у Ерузалімцы, дзе меў уласны дамок. Я не аднаго разу туды езьдзіла.

Пані Юзэфа прыехала з унукам Станіславам. Мама неяк расказвала, што малая Юзя гаварыла толькі па-беларуску. Ейны муж, Фалькоўскі, быў палякам і нават польскім шавіністам, і ён забараніў жонцы сустракацца й ліставацца зь беларусамі. Цікава, што іхны сын Генрык Фалькоўскі вельмі цікавіўся беларускімі справамі, цікавіўся гісторыяй свае сям'і, лёсам дзядзькі Станіслава. Ён некалькі разоў прыяжджаў у Вільню, дый я, бываючы ў Варшаве, заходзіла да іх.

Гасьцей у „Лясной хатцы" бывала шмат, праўда, я далёка не заўсёды магла зь імі пагаварыць, бо многа працавала. У маю нагрузку, як дацэнта, уваходзіла ня толькі выкладчыцкая праца, але й навуковая: удзел у канфэрэнцыях у розных гарадох СССР, пісаньне ўласных артыкулаў, рэцэнзаваньне артыкулаў іншых аўтараў, пару разоў я была апанэнткаю пры абароне дысэртацыі. А да таго — „павышэньне ідэалягічнага ўзроўню". Унівэрсытэт марксізму-ленінізму я закончыла яшчэ ў Горадні. Цяпер на нашым факультэце мы вывучалі „рабочы рух" у Эўропе, Азіі й Амэрыцы. Толку з гэтага было мала, аднак трэба было хадзіць на заняткі, рыхтаваць рэфэраты. Часам ладзіліся „адкрытыя партыйныя сходы", на якіх таксама трэба было прысутнічаць. Тое, што я была беспартыйнаю, ніяк не адбівалася на маім становішчы на катэдры. Толькі, калі зайшла гутарка пра маё назначэньне на загадчыцу катэдры, было сказана, што я „беспартыйная й не літоўка". Аднак я й не імкнулася да адміністрацыйнай работы. Калі-б імкнулася, перайшла-б ва Унівэрсытэт, дзе мне прапаноўвалі мейсца загадчыцы катэдры.

У 1968 г. я зноў паехала ў Нямеччыну, гэтым разам са студэнтамі. Паміж Віленскім пэдагагічным інстытутам і Эрфурцкай вышэйшай пэдагагічнай школай праходзіў кожнага году абмен студэнтамі, ад нас ехалі германісты, да нас прыяжджалі славісты. Напрацягу месяца студэнты мелі лекцыі й практычныя заняткі, а выкладчыкі (нас было трое, двое германістаў і адзін славіст) маглі распараджацца сваім часам, як хацелі: працаваць у бібліятэцы, аглядаць горад ці куды-небудзь паехаць, напрыклад, у Вэймэр. Я скарыстала з гэтай нагоды й пару разоў пабывала там, каб спакойна, бяз тлуму пахадзіць па старажытным горадзе, у якім жылі Гердэр, Гётэ, Шыльлер. З калегамі-немцамі езьдзілі ў Арнштат, дзе ёсьць цікавы музэй лялек, у замак, дзе паводле легенды сьпіць кароль Барбароса. У самым Эрфурце таксама шмат цікавага, мяне асабліва цікавіла Іда (Міжнародная выстава кветак) — там аграмадныя разарыі, калекцыі лілеяў, ірысаў, вяргініяў і шмат іншых кветак.

Месяц прабег хутка, і мы вярнуліся ў Вільню. Праз некалькі дзён паехалаі з сынам Славам (Яраславам) у Варшаву. Сыну было ўжо 14 гадоў. Гадавала яго фактычна бабуля. Я, як зязюлька, падкінула яго маме, праўда, сама шмат працавала, а бацька ягоны раптоўна памёр ад інфаркту, калі малому не было й году. Дома мы гаварылі выключна пабеларуску й толькі, калі Слава меў ісьці ў школу, я пару месяцаў гаварыла зь ім па-расейску. У школе ён ня меў праблемаў з мовай. А вось цяпер, у Варшаве, я пачула, як ён гаворыць папольску — на чыстай польскай мове, з добрым вымаўленнем. А навучыўся ён польскай мовы, слухаючы Варшаўскае радыё й чытаючы кніжкі. Затрымаліся мы ў Яна Мацкалы, я называла яго „дзядзька", хаця нашае сваяцтва было „дзясятаю вадою на кісялі". Ён таксама некалі жыў у Альхоўніках. Жыў Мацкала з жонкай, малодшай за яго на 25 гадоў, і сястой у самым цэнтры на вул. Навагродзкай, недалёка ад Палацу культуры. Гэта была ўжо ня тая Варшава з маіх дзіцячых гадоў. Новая, адбудаваная, з старанна адрэстаўраваным Старым Горадам. Ад Замку заставўся тады кавалак муру з дошкай. Тут быў Варшаўскі замак. Хадзілі ў Лазенкі. Езьдзілі ў Вілянова. Задаволеныя вярнуліся ў Вільню.



*З паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай. 1982 г.*

І зноў пацягнуліся дні, поўныя працы, клопатаў. Ажаніўся Юрка Луцкевіч, жонка ягоная была масквічка, аднак пазнаёміліся яны на Калыме, куды яна прыехала „па камсамольскім прызыве". Калі пачалі звальняць зь лягероў зьняволеных, не было каму працаваць. Вось і прыехалі камсамольцы. На жаль, Юркава жонка не прыжылася ў беларускім асяродзьдзі, спачатку адвадзіла ад дому сяброў Юркі, а пасьля выжыла й Лявона. Лявон вельмі перажываў разрыў з братам, яны-ж столькі разам перажылі! Юрка застаўся ў трохпакаёвай каапэратыўнай кватэры, якую яны будавалі разам зь Лявонам, а Лявон, дзякуючы дапамозе А. Багдановіча, які працаваў у Гарвыканкаме, пабудаваў сабе двухпакаёвую кватэру. Цяпер Лявон зблізіўся больш з Тонікам, часьцей бываў у нас, мы часта зь ім сустракаліся і ў 1970 г. пажаніліся. На нашае вясельле сабраліся ўсе сябры: Леванід Кароль з жонкай, маці й старэйшым братам Усеваладам, Лена й Алік Багдановічы, Шышэі, Сергіевічы, Глеб Багдановіч, Тонік, Цемналомскія — знаёмыя яшчэ зь Ляндварыса. Прыехалі з Горадні кузына Лявона Маня з дачкой Маргарытай і зяцем. У ЗАГСе меліся быць толькі найбліжэйшыя сваякі й сьведкі. Я пабачыла сярод іх нейкага незнаёмага мужчыну з букетам кветак і запыталася ў Лявона, хто гэта такі. А ён сказаў: „Я думаў, што гэта ты запрасіла яго". Аказалася, што гэта быў Аляксей Аніщчык, вось так мы пазнаёміліся. Ён пасьля то званіў, то прыяжджаў, пазычаў розныя кніжкі ды іншыя матар'ялы ў Лявона, але ніякага супрацоўніцтва, а тым больш сяброўства між імі не было.

Жылі мы зь Лявонам на вул. Дзяржынскага (цяпер — Кальварыйская) ў двухпакаёвай кватэры. Раён вельмі непрыемны: рынак, шмат заводаў, некуды пайсьці на шпацыр. Неяк вясною 1971 г. прыехаў да нас Зянон Пазьняк. Ён наведаў і маму, прысылаў свае альбомы фатаграфіяў. Слава закончыў школу, зьбіраўся паступаць у ВУ на фізыку. Летам 1971 г. здарылася зусім нечаканая нагода памяняць кватэру на трохпакаёвую ў новым доме ў Лаздзінаі. Кватэра была прасторная, зь відам з усходу на горад, з захаду — на лес. Напачатку жніўня мы пераехалі ў новую кватэру. Слава паступіў на фізычны факультэт ВУ, у расейскую групу. А ў верасьні я паехала на стажыроўку ў Маскву, праўда, да канца не дабыла, у сьнежні вярнулася дамоў, балела ў сэрцы, паўтараліся прыступы стэнакардыі.

Лявон працаваў намесьнікам галоўнага энэргетыка на ЖБК-3, я дацэнтам у пэдінстытуце, Слава вучыўся. Мы часта бывалі ў мамы. Але найбольш зь ёй бываў і апекаваўся Тонік. Лявон шмат зрабіў у „Лясной хатцы", правёў электрычнасьць (роў пад кабель капалі ўсёй талакой), зрабіў рамонт другой палавіны дому, басэйны для вады й пад. Ён шмат памагаў маме: перафатаграфоўваў старыя здымкі, перадрукоўваў ейныя рукапісы, прыводзіў і адводзіў гасьцей.

У 1972 г. Лявон дастаў на рабоце прэмію й купіў байдарку. Мы набылі палатку, тры спальныя мяхі й матрацы. І лета праводзілі на возеры Асвея, паміж Немянчынам і Падбродзьдзем. Возера вялікае — даўжыня 30 км., навкол лясы. Мы ставілі палатку ў лесе, зьбіралі ягады: суніцы (ніколі ў жыцьці ня бачыла столькі суніцаў — чырвоныя, лістоў не відаць), маліны, чарніцы, купаліся, прайшлі неяк на байдарцы, паставіўшы парус, усё возера з канца ў канец. Цудоўны быў адпачынак, лепшы, чым у Палангэ.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**

# Пазабюджэтныя сродкі фармуюцца ад продажу зброі

*Працяг са старонкі 1*

У тым ліку ў краіны, на продаж зброі якім накладзеныя санкцыі ААН. Ускосным падцьверджаньнем гэтага можа быць факт падрыхтоўкі ў 2002 г. некалькіх дзясяткаў афіцэраў іракскіх войскаў супрацьпаветранай абароны на базе Беларускай ваеннай акадэміі.

Адным з актыўных фігурантаў на рынку гандлю зброяй паводле сваіх патэнцыяльных гандлёвых магчымасьцяў і атрыманых даходаў умоўнае другое мейсца (пасьля зьнешнегандлёвай фірмы "Белтэхэкспарт") займае Рэспубліканскае зьнешнегандлёвае ўнітарнае прадпрыемства "Бельзьнешпрамсэрвіс". Патэнцыяльным пакупнікам "Бельзьнешпрамсэрвіс" можа прапанаваць: эксплюатаваныя больш за 10-15 год, але мадэрнізаваныя й цалкам боездольныя зэнітна-ракетныя комплексы (ЗРК) С-300V, С-200VЕ "Вега", С-125 "Печора", С-75 "Волхов", 9К33 "Оса", 2К11 "Круг", 2К12 "Куб", пераносны ЗРК 9К38 "Ігла-1", радыёлякацыйныя станцыі (РЛС) ды іншыя віды ўзбраеньня. Адначасова беларуская фірма прапануе паслугі ў рамоньце й сэрвісным абслугоўваньні тэхнікі: ЗРК "Вега", "Печора", "Волхов", "Оса", наземных радыёлякацыйных запрашальнікаў "Пароль", рухомых радыёвысотамераў, пунктаў кіраваньня агнём ЗРК і артылерыйскіх батарэяў, перасоўных дызэльных электрастанцыяў, наземных сродкаў забесьпячэньня палётаў і пасадак самалётаў. Акрамя таго, беларускі бок гатовы прапанаваць паслугі капітальнай мадэрнізацыі ЗРК С-200VЕ, С-125, С-75 і РЛС, што дазволіць павялічыць вышыню паразы паветранай цэлі на 3-5 км. і ейнага вышыню за 25-50 км.

***Незалежны інфармацыйна-аналітычны цэнтар. Зводка №4***

Юзэф Русакевіч

# Гаспадарыць умелі й даўней...



Граф Уладыслаў Умястоўскі



Графіня Яніна Ўмястоўская

Кожная дзяржава, горад, вёска, фальварак, засьценак або маёнтак маюць сваю гісторыю. Былыя калгасы й саўгасы – таксама. Маюць сваю гісторыю школы, фабрыкі й заводы, дарогі, рэкі й лясы, бальніцы й санаторыі, касьцёлы й цэрквы. Карацей кажучы, усё мае сваю гісторыю – свой пачатак, росквіт і заняпад. Гісторыі бываюць кароткімі й доўгімі, на некаторых можна вучыцца, браць зь іх прыклад. Гісторыя ня цэрпіць фальшы, падробак ды ўсялякіх перагібаў. Усё, што было, ніколі не вяртаецца, не паўтараецца, нават у гісторыі адной сям'і, не кажучы ўжо пра гісторыю цэлай краіны. Быў Савецкі Саюз, камунізм (ці-бо фэадалізм), – яны ніколі ня вернуцца. Будзе толькі нешта не такое, горшае ці лепшае. Аднак усё зробленае ў сьвеце і ўсё, што яшчэ будзе рабіцца, залежыць ад самых людзей і ад іхніх лідэраў, павадыроў. Добра, калі яны нармальныя, калі ўмеюць кіраваць ды могуць зрабіць нешта добрае, а ня проста займаюць не сваё мейсца ды набіваюць сабе кішэні.

Зірнем бліжэй, як было ў нас, на Віленшчыне. А было ўсяго: 123 гады царскай акупацыі, рэвалюцыі, польская акупацыя, савецкая акупацыя, войны, калгасы. Яшчэ ў міжваенным часе ў Віленскім краі налічвалася 136 двароў (маёнткаў) і палацаў, мноства касьцёлаў, кляштараў і капліцаў, многія зь якіх і дагэтуль уваходзяць у скарбніцу сусьветнай культуры. Я хачу распавесьці пра Жэмласлаў, які даўней называўся Кандрацішкамі. Мала хто ведае цяпер пра іх, нават у Беларусі, нават у Гарадзенскай вобласьці або ў Іўеўскім раёне. Кажуць, быў там калісьці якісьці маёнтак, а цяпер сярэдняй рукі саўгас “Жэмаслаў”. Вось і ўсё. Аднак гэты куток пад самым “чортавым апэндыксам” (Дзевянішкі) каля ракі Гаўя, дзе зямля гэткая самая, як і паўсюль на Віленшчыне, супяшчаная, мае даўжэйшую гісторыю, чым гісторыя Савецкага Саюзу. Ад даўных часоў уладаў гэтым кутком Ян Зэновіч, ягоныя дзеці, Швыкоўскія й г. д. У 1684 г. уладальнікам зрабіўся Ежы Жэмла, чаму фальварак і пачаў называцца Жэмлаславам. Пасьля Жэмлаў былі іншыя ўладальнікі. У 1807 г. Жэмласлаў быў куплены ў Антона Кеневіча Якубам Умястоўскім (1764 – 1809). Нашчадкі Якуба Ўмястоўскага – сын Людвік, брат Казімір з сынамі Казімірам і Ўладыславам – і зрабілі цуд на гэтай зямлі. Асабліва спрычыніліся да цудадзейства граф Уладыслаў Умястоўскі (1833 - 1905) і ягоная жонка-варшавянка Яніна Астраруг-Садоўская (пам. у 1941 г. у Рыме).

У 1928 г. у Вільні была выдадзеная кніга ўспамінаў пра ўладаньні Ўмястоўскіх “Szmat ziemi i ïycia...”, 127 старонак, 91 фатаздымак. Чытаеш, разглядваеш здымкі й дзіву даесься: якія будынкі, дарогі, паркі, людзі, якая культура, – здаецца, нібыта трапіў у Швайцарыю ці Італію. І гэта ўсё за нейкіх 100 гадоў зрабілі Ўмястоўскія! Жэмласлаўскі палац нагадвае Лазенкоўскі палац у Варшаве або Тышкевічаўскую Ваку пад Вільняй. У палацы Ўмястоўскіх была вялізная бібліятэка, справа й зьлева – двухпавярховыя афіцыны, агромністы парк, клюмбы, каторыя ўлетку даглядала 48 чалавек, побач цякла маляўнічая Гаўя, высілася сьцяна бору. Гаспадарка Ўмястоўскіх была ідэальна спрадкаваная, мела больш за 200 пародзістых кароваў і коней, дыхтоўна збудаваныя хлявы й стайні. Мелася дасьледчая батанічная станцыя, млын, а далей ад парку – трохпавярховы сьпіртзавод на 4 заторы (штодня вагонамі дастаўлялі сюды па 160 пудоў кукурузы). Умястоўскі плянаваў збудаваць чыгунку Юрацішкі – Жэмласлаў – Беняконі (гэта 50 км.). Для пабудовы дамоў і нэагатыцкіх касьцёлаў ён прывёз з Францыі абсталяваньне для вытворчасьці цэглы й гонты, залажыў фабрыку ў вёсцы Дабраўляны, знайшоў адпаведную гліну, вывучыў рабочых. Як бачым, Умястоўскія ні цэглу, ні гонту, ні іншыя тавары з Захаду стараліся не завозіць, а рабілі ўсё самі. Віно й гарэлка з Жэмласлаўскага сьпіртзаводу славілася далёка за мяжою, асабліва ў Лёндане. Сам Уладыслаў Умястоўскі ня піў, і не курыў, нават ня ўмеў танцаваць. А за жонку ўзяў варшаўскую графіню, прыгажуню, шмат маладзейшую ад сябе. Маладая не пабаялася з сталіцы паехаць у Жэмласлаў, аднак хутка яны ўдвох з Уладыславам Умястоўскім і ў Жэмлаславе зрабілі маленькую Варшаву, Вільню й Швайцарыю. Тут была іхная рэзыдэнцыя, тут бывалі знакамітыя людзі з Эўропы: мастакі, пісьменьнікі, паэты, рэдактары, артысты, такія, як Гэлена Маджэеўская, Антаніна Гофманава, Людвік Кандратовіч, Юзаф Крэмэр, Аляксандар Думас ды інш. Сям'я Ўмястоўскіх была надзвычай інтэлігентная й самай высокай культуры, Уладыслаў і Яніна валодалі 9-цю эўрапэйскімі мовамі й вольна чуліся ў Парыжы, Венэцыі, Пецярбурзе, Лёндане, Варшаве, Бэрліне, Вільні. Але найбольш яны любілі свой Жэмласлаў, зь якога зрабілі Захад. У Жэмласлаў ехалі ня толькі адпачываць, але й вучыцца гаспадарыць. Тут працавалі лепшыя спэцыялісты зь Італіі, Варшавы, Вільні.

Ня думайце, што ва Ўмястоўскіх быў адзін толькі маёнтак! Не! Яны валодалі некалькімі дзясяткамі маёнткаў і фальваркаў, мелі некалькі тысячаў гектараў зямлі, шмат лесу. Іхныя палацы былі ў Варшаве, Швэйцарыі, Вільні (на Троцкай вул.), – і ўсе яны былі набытыя ці пабудаваныя за свае грошы, а не прыватызаваныя ў каго іншага за капейкі.

У 1905 г. У. Умястоўскі раптоўна памёр у Вільні. Гэта быў страшны ўдар для Яніны. Аднак, што цікава, і па сьмерці мужа Яніна сама давала рады. Ды Першая сусьветная вайна, нямецкая й савецкая акупацыі прывялі ейную спадчыну да заняпаду. Маці Яніны, графіня Аляксандра Садоўская, некалькі гадоў перад рэвалюцыяй жыла ў Пецярбурзе. Але рэвалюцыі ня вытрымала й памерла. Яніне цудам удалося вывезьці труну маці зь Пецярбургу ў Варшаву. Яніна Ўмястоўская ўтварыла з сваіх падвіленскіх уладаньняў Жэмласлаўскую фундацыю й аддала яе на асьветніцкія мэты Віленскаму Ўнівэрсытэту. У склад фундацыі ўваходзілі тры ейныя маёнткі: уся Жэмласлаўская рэзыдэнцыя, маёнткі Гута й Залесьсе (усяго 2,2 тыс. га). Акт перадачы гэтых земляў Яніна Ўмястоўская й рэктар ВУ Віктар Станкевіч падпісалі 6 сакавіка 1922 г., калі яшчэ на Віленшчыне не ўсталявалася польская ўлада. На жаль, унівэрсытэцкія навукоўцы з гэтага шматмільённага падарунку не скарысталі й ніякіх цудаў на зямлі фундацыі не стварылі... Маёнтак Канвэлішкі Я. Умястоўская адпісала на Цэнтар адпачынку артыстаў, вучоных і літаратараў. Маёнтак Клявіцу перадала для акадэмічнай моладзі зь Вільні, а маёнтак Казімежава, які яна падарыла Вольскаму, Умястоўская выкупіла й перадала Цэнтральнай радзе бацькоўскай апекі ў Вільні. Такая сытуацыя была з маёнткамі маргграбіны Яніны Ўмястоўскай да Другой сусьветнай вайны (найвышэйшы тытул маргграбіны надалі ёй у Ватыкане). Вайна ўсё пакрыжавала. У часе вайны Яніна Ўмястоўская апынулася ў Рыме, там і памерла.



Жэмаслаўскі палац напачатку XX ст.

Як-жа выглядае слаўны Жэмласлаў цяпер? Так як быў, стаіць амаль 100 гадоў без рамонту. Перад палацам высіцца падобны да тэлефанічнага слупа помнік асвабадзіцелю з шырокімі плячыма й малой галавой, наўкол сьмярдзіць саляркаю, носяцца, як ачмурэлыя, трактары, зноў працуе сьпіртзавод (пры Гарбачове ў ім рабілі раменьчыкі для мінскіх гадзіньнікаў), усё разбураецца, прыходзіць у заняпад. Жамласлаў просіць паратунку.

Вынік такі. У Жэмлаславе была гаспадарка эўрапэйскага ўзроўню, цэнтар культуры Віленшчыны. А зрабілі ўсё гэта двое: Ўладыслаў і Яніна Ўмястоўскія. На аднаўленьне іхнай гаспадаркі патрэбныя мільёны даляраў. Аднак тут і даляры не дапамогуць, бо перадусім патрэбныя такія, як у былых гаспадароў Жэмласлава, сьветлыя, разумныя галовы. Аднак наш “тутэйшы” люд атупеў, думаць ня хоча. Разумнейшыя ўцякаюць у гарады, а вёска старэе й адмірае. І нэакапіталістаў з нядаўніх камуністаў зрабіць усё ніяк не ўдаецца, ідзе татальны развал беларускай эканомікі й насоўваецца страшэннае беспрацоўе. А гэта ўсё вядзе да бандытызму, алкагалізму, наркаманіі й прастытуцыі, а, гледзячы шырэй, – да міжнародных канфліктаў, войнаў, галечы. І трэба ўсё пачынаць ад пачатку...



Жэмаслаўскі палац у 1975 г.



Палац Умястоўскіх на Троцкай вул. у Вільні. 2002 г.



Сьпіртзавод Умястоўскіх. 2001 г.




Межавы камень з надпісам: "Жэмласлаўская навуковая фундацыя Уладыслава й Яніны Ўмястоўскіх пры Віленскім Унівэрсытэце".

# Мартыралёг Віленскага краю

«Вільня 20-30-х гадоў, гэта горад поўны рамантызму, горад барока, трыццаці дзевяці касцелаў, са старым універсітэтам, са студэнтамі, якія дыскутуюць, хвалююцца і пратэстуюць, культурны цэнтар які раскінуўся між узгоркаў, з якіх ва ўсе бакі адкрываецца цудоўная панарама гораду. Лініі барочных сілуэтаў і карнізаў выразна абмалёўваюцца на фоне неба, вулкі то пашыраюцца, то звужаюцца, а ў вечаровым ізумрудным небе зззяюць бы каштоўныя камяні-зоры, паветра поўніцца музыкай, якая гучыць з-за дзвярэй маленькіх бараў гэтага горада-казкі, гэта горад, ў якім чалавеку добра, нішто не ціснe, суадносіны будынкаў і чалавека вельмі ўдала вытрыманыя, і таму ў гэтым горадзе ўтульна»... Так згадваў горад свайго юнацтва й маладосьці, горад першага каханьня й натхненьня знаны беларускі мастак, гадаванец Віленскага Ўнівэрсытэту Міхась Сеўрук у часы сваёй пагодлівай восені.

Кажучы словамі паэта, «Вільня – сэрца Краю", "красуня Вільня" – гэта паўнавартаснае, вірлівае, грамадзка-палітычнае й культурнае жыцьцё. Гэта Віленскі Ўнівэрсытэт, Беларускі Студэнцкі Саюз, Віленская Беларуская Гімназія, Беларускі Музэй, Навуковае Таварыства, Інстытут Беларускай Гаспадаркі й Культуры, Беларускі Народны Дом, Пасольскі Клюб, Беларускі Кааператыўны Банк, сотні беларускіх газэтаў і дзясяткі часопісаў, але, перадусім, гэта руплівыя беларускага адраджэньня, – усё гэта колішняя Вільня.

Аднак, Вільня ня толькі шчымліва-сьветлы, настальгічны ўспамін пра тое, што было, што не збылося, гэта й дакорлівы й незагойны напамін нашчадкам каля муроў, у якіх чакалі прысуду беларускія інсургенты, на Лукішскім пляцы, дзе быў пакараны Кастусь Каліноўскі, ля шэрай скрыні ампірнага будынку-сымбалю мінулых таталітарных часоў насупраць Лукішскага пляцу. Тут, на прасьпекце Сьв. Георгія – Міцкевіча – маршала Пілсудскага, у будынку, які ўвесь час пераходзіў ва ўладаньне ад адных гаспадароў да іншых, ад нашчадкаў і правапераемнікаў Мураўёва-вешальніка да інстытуцыяў нямецкай адміністрацыі й, зрэшты, польскіх судзьдзяў Віленскага краю, –праз камеры часовага зьняволеньня прайшла ладная чарада патрыётаў і лепшых сыноў Беларусі. Ксёндз Вінцэсь Гадлеўскі, паэты Максім Танк, Валянцін Таўлай, Міхась Машара, Міхась Васілёк, дзясяткі й сотні сябраў КПЗБ, ТБШ ды іншых палітычных партыяў і рухаў знаходзілі сабе тут часовы прытулак перад этапаваньнем у адзін з польскіх канцэнтрацыйных лягероў.

Аднак гэта былі толькі крывавыя забаўкі, дзіцячыя жарты ў параўнаньні з навалай старэйшага брата – расейскага "вызваліцеля". Толькі за восень 1939 г., без суду й следзтва, практычна дарэшты была вынішчаная сьвядомая беларуская інтэлегенцыя. Па ўсёй, акупаванай удругарадзь 15 чэрвеня 1940 г. Савецкім Саюзам Літве, пачаўся тэрор: арышты, катаваньні, забойствы, дэпартацыі ў Сыбір ды іншыя мала прыдатныя для жыцця рэгіёны савецкай імпэрыі. Дзеля перасьледу й зьнішчэньня, а таксама для азнаямленьня з савецкім ладам жыцьця ў краіне была пашыраная сыстэма турмаў і разьмеркавальнікаў. Яшчэ восеньню 1940 г. у згаданым будынку пры Лукішскім пляцы, цяпер ужо на прасьпекце Сталіна, быў створаны Віленскі аддзел НКВД ды адмысловая турма папярэдняга (перад ГУЛАГаўскім) зьняволеньня з адзіночнымі цэлямі-камэрамі для вязьняў.

Напрацягу Нямецкай акупацыі (1941-44 гг.) будынак на прасьпекце (тады Гітлера) выкарыстоўваўся сакрэтнай паліцыяй (Гестапа) як штаб-кватэра і ў якасьці турмы й баракаў Віленскага спэцыяльнага пададдзела, супрацоўнікі якога забілі тысячы людзей, галоўным чынам жыдоў, пахаваных на сумнавядомых могілках у Панарах.

Не аціхлі енкі ды стогны ў засьценках жудаснага будынку й з чарговым прыходам "вызваліцеляў" у 1944 г., калі ён, здавалася, назаўжды перайшоў у падпарадкаваньне інстытуцыі НКВД/НКГБ/МГБ/КГБ. Варта адзначыць, што толькі да 1958 г., больш за 200 тыс. жыхароў Літ. ССР прайшлі праз сталінскія лягеры, турмы, больш за 1500 было забіта ў выніку масавых экзэкуцыяў альбо прыгавораў да вышэйшай меры пакараньня. Значную частку зь ліку жыхароў Літвы складалі этнічныя беларусы, перадусім жыхары Віленскага Краю. Літоўскім беларусам надарылася ў поўнай меры падзяліць трагічны лёс літоўскага народу ў часы камуністычнага самаўладзьдзя й беззаконьня. Не выпадкова, што 13 ліпеня 2002 г. у прывітальнай тэлеграме III Канферэнцыі беларусаў Балтыі ў Вільні Прэзыдэнт Літоўскай Рэспублікі Ўладас Адамкус назваў беларусаў Літвы карэнным насельніцтвам краіны, а лідар літоўскіх кансэрватараў Вітаўтас Ландсбергіс у свім выступу акцэнтаваў увагу высокага сходу на супольнай барацьбе літоўскага й беларускага народаў супраць расейскага імпэрыялізму й таталітарызму.

Агульнасць, да пэўных часоў, гістарычных лёсаў, супольнасць набыткаў і дасягненьняў, горыч стратаў, падштурхоўвае ды абумоўлівае неабходнасць паглыбленьня і ўмацаваньня ўзаемадзеяньняў у вывучэньні й выкрыцці таталітарнага мінулага, прадухіленьні ягоных гістарычных рэцэдываў у імя руху да адкрытай, цывілізаванай грамадзянскай супольнасьці. Менавіта таму Віленскі цэнтар грамадзкіх Ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" разам зь Ініцыятывай вядучых навукоўцаў Беларусі й шэрагу грамадзкіх аб'яднаньняў Менску зь беларускага боку й Дзяржаўны цэнтар дасьледваньня й рэзыстэнцыі грамадзянаў Літвы, "*улічваючы гістарычную значнасьць сувязі паміж Літоўскай і Беларускай нацыямі, жадаючы ўвекапомніць ахвяры таталітарных рэжымаў – нацызму й камунізму, адчуваючы адказнасьць за гістарычную сьвядомасьць грамадзянаў Літвы й Беларусі,*" падпісалі дамову аб абмене інфармацыяй, аб супольным удзеле ў навуковых дасьледваньнях і адукацыйных праграмах, аб арганізацыі супольных выставаў, канфэрэнцыяў і сэмінараў, прысьвечаных нацысцкім, камуністычным ды іншым злачынствам, учыненым супраць чалавецтва. У рэчышчы падпісаных 3 снежня 2002 г. дамовы Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі" распачаў дзейнасьць у справе падрыхтоўкі праекта дакументальна-публіцыстычнай і мастацкай (комплекснай) выставы "Беларусы Віленскага краю – ахвяры камуністычнага рэжыму", якую мяркуецца правесьці ў "Музэі генацыда і супраціва народаў Літвы". Але, зразумела, гэты маштабны праект запатрабуе часу дy значных высілкаў і сродкаў. (З ангельскім апісаньнем праекта можна будзе пазнаёміцца ў сеціве на старонцы – http://www.antyhenacyd.yahoo.com, з апісаньнем праекта па-руску па адрэсе http://www.antyhenacyd-39.fromru.com, а таксама на сайце газеты "Рунь" (http://www.runbel.lt). Бліжэйшым часам запланавана правесьці рабочую сустрэчу зацікаўленых спэцыялістаў, спачатку ў Вільні, а потым у Менску. А ўжо з наступнага-ж нумару мы распачынаем публікацыю сьпісаў рэпрэсаваных камуністычнымі ўладамі, ураджэнцаў Віленскага краю, які падрыхтаваны паводле матар'ялаў, дасьледваньняў, зробленых беларускім гісторыкам, актыўным удзельнікам Беларускай ініцыятывы Ігарам Кузьняцовым, аўтарам першага тому "Беларускі індэкс рэпрэсаваных (Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920-1950-я гг. у Заходняй Сібіры)", які выдаў у 2002 г. "Архіў Найноўшай Гісторыі".

***Уладзімір Старчанка***

# Дыялёгі або нататкі ў мэтадалёгіі палітычнай дзейнасьці

*Працяг. Пачатак у № 47.*

## Дыялёг восьмы

**- Эй, сьляпы, да каго падобны слон?**

- Да гадзюкі, - адказаў сьляпы, мацаючы хобат слана.

***Выснова***. Хобат слана падобны да гадзюкі, але слон, узяты цалкам, да яе зусім не падобны. Вывучай аб'ект дзейнасьці з розных бакоў і пунктаў гледжаньня, інакш рызыкуеш мець пра яго неадэкватнае ўяўленьне.

***Камэнтар***. Найлепшы вынік пры аналізе аб'екта дасягаецца праз поліпрадметны погляд на яго, які забясьпечвае стэрэаскапічнае ўспрыманьне аб'екту. Паспрабуй структурыяваць аб'ект, вылучыўшы ягоныя галоўныя элемэнты і ўсталяваўшы сувязі-адносіны паміж імі. Распрацуй такім чынам тэарэтычную мадэль аб'екта і правер яе на несупярэчлівасьць і працаздольнасьць. Працаздольная мадэль павінная задавальняюча апісваць рэальны стан і паводзіны аб'екта. Распарацоўваючы мадэль, карыстайся правілам мінімакса: шукай мінімальную структуру пры максімальнай адэкватнасьці. Памятай, што добрая мадэль падкажа табе спосабы кіраваньня аб'ектам.

***Прыклад***. У першыя месяцы пасля Чарнобыльскай аварыі выкід радыёнуклідаў у навакольнае асяродзьдзе зрабіў малако сапраўдным атрутным рэчывам. Аднак палешукі, па завядзёнцы, працягвалі яго ўжываць самі і скармліваць дзецям. Рабілі яны гэта не для таго, каб атруціць уласных дзяцей, а з той прычыны, што працягвалі карыстацца састарэлай мадэльлю малака, згодна зь якой гэты прадукт утрымлівае толькі карысныя для дзяцей кампанэнты. Але постчарнобыльскае малако старой мадэльлю апісвалася неадэкватна, бо ў ягонай структуры зьявіліся радыёактыўны ёд, цэзі, стронцы, а дзе-нідзе і плутоні. "Ёдны ўдар" быў настолькі моцным, што захворваемасьць на рак шчытападобнай залозы павялічылася сярод палешукоў у тысячы разоў. Такую мэтадалягічную памылку ў мадэляваньні наўрад-ці хто адважыцца назваць бяскрыўднай.

***Палітычная аналёгія***. Многія беларускія палітыкі ды аналітыкі ўпарта карыстаюцца двухполюснай мадэльлю палітычнага спэктра краіны. Згодна зь ёю на адным полюсе знаходзіцца дыктатар Лукашэнка й ягоныя хаўруснікі, а з другога - шырокая (ад Пашкевіча, Лявонава, Чыгіра, Абрамавай, Калякіна, Гайдукевіча... да Вячоркі, Лябедзькі, Статкевіча, Шушкевіча...) дэмакратычная апазыцыя дыктатару. Адпаведна сваёй структуры, мадэль вызначае й галоўную палітычную мэту дзейнасьці апазыцыі: замену прэзыдэнта-дыктатара на прэзыдэнта-дэмакрата. Менавіта гэтая мадэль актыўна трансьлюецца й прапагандуецца ў апазыцыйных СМІ.

Аднак згаданая мадэль не вытрымлівае мінімальнай крытыкі, бо, па-першае, абсалютна не адлюстроўвае генэтычную прыроду беларускай дыктатуры, а, па-другое, не адпавядае сапраўднай структуры палітычнай прасторы Беларусі. І згаданыя недахопы не назавеш бяскрыўднымі, бо яны фатальным чынам адбіваюцца на дзейнасьці "апазыцыі" і ўводзяць у зман палітычна актыўную грамадзкасьць.

Традыцыйны праект дзейнасьці "аб'яднаных" выглядае так: а) знайсці прымальнага для Расеі кандыдата ў прэзыдэнты (намэнклятурны, прарасейскі, несамастойны...); б) перакапаць Маскву, што новы кандыдат лепш за Лукашэнку будзе зрэалізоўваць у Беларусі інтарэсы Расеі (паскорыць інтэграцыю, аддасьць беларускую маёмасьць расейскаму капіталу...); в) заручыцца інфармацыйна-фінансава-палітычнай падтрымкай Масквы падчас палітычнай кампаніі; г) ... што далей невядома, бо яшчэ ні разу не ўдавалася выканаць пункты б) і в), але звычайна пункт г) азначае правал кампаніі. Адпаведна й лёзунг палітдзейнасьці "За Саюз без Лукашэнкі!" выглядае для "аб'яднаных" цалкам натуральным. Цікава, што абсалютная большасьць шэраговых удзельнікаў падобных палітычных праектаў "у труне бачыла Саюз і інтэграцыю з Расеяй" і марыць пра незалежную дэмакратычную Беларусь. Але іх пераканалі, што спачатку трэба замяніць дыктатара на дэмакрата, які й пабудуе незалежную Беларусь. Маецца на ўвазе, што дэмакрат з дапамогай Масквы (якая здасьць Лукашэнку й падтрымае Нелукашэнку) прыйдзе да ўлады, а потым падмане Маскву, пракіне саюз, наплюе на інтэграцыю ды зоймецца будаўніцтвам нацыянальнай дзяржавы... Вось так!

Нягледзячы на ўвесь наіў і бясплённасьць гэткіх разьлікаў, яны трывала сядзяць у грамадзкай сьвядомасьці, бо прынятая тэарэтычная мадэль іншых варыянтаў не дапускае. Грамадзкасьць ня бачыць выйсьця зь інтэлектуальнага тупіку: "А як жа інакш? Ніяк!"

Заганнасьць мадэлі лёгка ўсьвядоміць, прааналізаваўшы характэрны тэзіс "аб'яднаных дэмакратаў", які прымушае іх рабіць стаўку на Маскву: "Лукашэнку паставіла Масква, Масква яго й заменіць" (або ягоны больш інтэлегентны варыянт: "У Расеі больш дэмакратыі й яна дэмакратызуе Беларусь")... Ну, паставіла! Ну, заменіць! Але на каго? Толькі на таго, хто з пункту гледжаньня Масквы будзе значна лепшы за Лукашэнку. А тады паўстае пытаньне: а якую ролю выконвае дыктатар і ягоны рэжым у Беларусі? Адказ відавочны: дыктатура Лукашэнкі - гэта дыктатура каляніяльнай адміністрацыі Расеі на тэрыторыі фармальна незалежнай Беларусі. (Рэжым Машэрава на тэрыторыі БССР быў таксама варыянтам каляніяльнага рэжыму Расеі ў Беларусі. І Мураўёў-вешальнік таксама быў галавой акупацыйна-каляніяльнага рэжыму Расеі на тэрыторыі Беларусі).

Значыцца, каб дамагчыся падтрымкі Масквы, "аб'яднаным" трэба прапанаваць Маскве варыянт больш эфэктоўнай арганізацыі каляніяльнай палітыкі й, адпаведна, асобу, якая ажыцьцяўленьне азначанага варыянту ў Беларусі здолее ачоліць. Іншымі словамі, патрэбны лідэр, здольны, пераадолеўшы супраціў грамадзтва, значна павялічыць ступень нацыянальна-культурнага, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага прыгнёту беларусаў расейскім імпэрыялізмам. Ня трэба й казаць, што падобныя пляны й дзейнасьць зьяўляюцца чыста антыбеларускімі й антыдзяржаўнымі. Пад імі адмовіліся-б падпісацца 99% шэраговых удзельнікаў акцыяў "аб'яднанай апазыцыі". Таму гэтыя пляны ў відавочным выглядзе й ня могуць быць абвешчаныя. Інакш гарантаванае масавае бежанства беларусаў з шэрагаў "аб'яднаных".

Такім чынам, акрэсьліўшы генэтычную прыроду беларускага дыктатарскага рэжыму, лёгка зразумець, што шукаць на Ўсходзе падтрымку ў справе замены дыктатуры дэмакратыяй тое самае, што заліваць агонь бэнзінам. Як жа выйсці з тупіку? Каб яго знайсьці, трэба зьвярнуцца да іншай мадэлі палітычнай прасторы краіны, згодна якой асноўнае палітычнае супрацьстаяньне адбываецца па лініі "незалежнасьць - каляніялізм". Гэта значыць, што з аднаго боку знаходзіцца Каляніяльны рэжым (няважна, хто яго ўзначальвае і ў якой форме ён існуе), а з другога - Беларускі нацыянальна-вызвольны рух, галоўная палітычная мэта якога - замена Каляніяльнай адміністрацыі Беларусі Нацыянальным Урадам. Трэцяя штучна створаная сіла - Аб'яднаная апазыцыя, дэкляраваная мэта якой ёсьць замена прэзыдэнта-дыктатара прэзыдэнтам-дэмакратам (кажучы больш дакладна, замена галавы каляніяльнай адміністрацыі сваёй крэатурай). За сапраўдную-ж мэту дзейнасьці "аб'яднаныя" маюць стварэнне псэўдаальтэрнатывы рэжыму Лукашэнкі ў вачох беларускага народу, а функцыянальна яны выступаюць на палітычным полі як сродак, з дапамогай якога мэтраполія (Масква) кантралюе сваю-ж каляніяльную адміністрацыю. Як толькі беларускі рэжым у вачох Масквы праяўляе свавольства, на яго цісьнуць Аб'яднаная апазыцыя. Нельга не заўважыць, што дэкляраваная мэта "аб'яднаных" ніяк не рэалізуецца, у той час як сапраўдныя іхныя мэта й функцыя зрэалізоўваюцца амаль на ўсе 100%! Вось чаму Аб'яднаная апазыцыя, па сутнасці, зьяўляецца "каляніяльнай апазыцыяй". Такое азначэньне падкрэслівае й той факт, што генэтычна і Каляніяльная адміністрацыя, і "аб'яднаныя" маюць аднолькавае паходжаньне, хаця й выконваюць на палітычнай прасторы Беларусі розныя функцыі.

Такім чынам, поле палітычнага змаганьня палягае паміж трыма палітычнымі сіламі: Каляніяльнай адміністрацыяй (КА), Нацыянальна-вызвольным рухам (НВР) і Аб'яднанай апазыцыяй (АА). Каляніяльная адміністрацыя змагаецца з НВР і АА. Аб'яднаная апазыцыя змагаецца з КА (дакладней зь ейнай галавою) й НВР. Нацыянальна-вызвольны рух змагаецца з КА і АА.

Трэба зьвярнуць увагу на тое, што мадэль добра тлумачыць некаторыя "парадоксы" палітычнага жыцьця краіны. Прыкладам, ня ўсе абывацелі разумеюць, чаму НВР і АА не ідуць супольным фронтам падчас прэзыдэнцкіх кампаніяў. Ды таму, што НВР ня можа задаволіцца дэкаратыўнай зьменай кіраўніка КА пры захаваньні структуры й сутнасьці каляніяльнай улады (да чаго імкнецца АА), а АА ня можа дапусьціць прыходу да ўлады лідэра НВР, які заменіць КА нацыянальнай паводле зьместу ўладай і возьме курс на пабудову незалежнай дзяржавы.

Значна прасьцей і натуральней КА і АА выступаць супольным фронтам супраць НВР, бо апошні генэтычна зьяўляецца іхным натуральным антаганістам, які адлюстроўвае глыбінныя інтарэсы беларускага народу, а не расейскага імпэрыялізму. І яны (КА і АА), нягледзячы на жорсткую барацьбу паміж сабой, такім фронтам выступаюць, спрабуючы выцісьнуць НВР з палітычнай арэны, запалохаць рэпрэсіямі, пазбавіць яго людзкіх і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, сказіць або замаўчаць ягоную палітычную пазыцыю й палітычную дзейнасьць...

Пакінем у баку барацьбу КА супраць НВР, бо яна з большага мае адкрыты характар і для кожнага відавочная. Лепш спынімся на барацьбе АА супраць НВР, бо яна вядзецца больш прыхаванымі мэтадамі. Галоўны напрамак гэтай прыхаванай барацьбы - перацягваньне нацыянальна й палітычна абуджаных людзкіх рэсурсаў пад сьцягі АА. Рэалізуецца гэты напрамак дзейнасьці праз мімікрыю АА пад нацыянальныя колеры й сымбалі НВР (бел-чырвона-белы сцяг, "Пагоня") й адпаведную рыторыку ("Жыве Беларусь!", "Адродзім беларускую мову і культуру!"); праз стварэньне мноства падкантрольных АА грамадзка-палітычных арганізацыяў са зьнешне нявызначанымі функцыямі, кшталту "Хартыі 97", "ЗУБР" (За Украіну, Беларусь, Расею); праз развал і драбленьне ўжо існуючых арганізацыяў (сацыял-дэмакраты, БНФ...), асколкі якіх перацягваюцца ў АА; праз руйнаваньне традыцыйных масавых акцыяў НВР, для чаго за тыдзень-два да нацыянальна-зьмястоўнай акцыі (25 Сакавіка, 26 красавіка, Дзядоў...) АА звычайна арганізоўвае агульна-пратэстную акцыю (марш, шэсце, мітынг), мэта якой выпусціць пару ды запабегчы кумулятыўнага эфэкту. Другі напрамак - грантавы подкуп беларускай мастацкай і інтэлектуальнай эліты з мэтай неўтралізацыі ейнай нацыянальна-акрэсьленай грамадзянскай пазыцыі. Трэці - публічная дыскрэдытацыя НВР, як знутры, гэтак і за межамі Беларусі праз скажэньне або замоўчваньне інфармацыі аб дзейнасьці й палітычнай пазыцыі "незалежнікаў"...

І займацца ўсім гэтым кіраўніцтва АА проста вымушаная яшчэ й дзеля палітычнага самазахаваньня, бо, не адлюстроўваючы інтарэсаў беларускага народу, яно тым ня менш мусіць паразытаваць на нацыянальна-свядомых беларусах, іншай-жа палітычна-актыўнай грамадзкасьці ў краіне проста не йснуе! Адсюль зразумела, што НВР, змагаючыся з АА, найперш змагаецца за ўплыў на нацыянальна-свядомых беларусаў, якіх АА удалося ўцягнуць у сфэру сваёй антыбеларускай дзейнасьці.

Аднак я яўна захапіўся камэнтарам мадэлі і ўжо трэба спыніцца, бо прыйшоў час для наступнага дыялёгу.

*Працяг будзе*

## "Па сьлядох Другой сусьветнай вайны"

так называецца кніга беларуса зь Вялікабрытаніі Юрыя Весялкоўскага, выдадзеная ў Вільні выдавецтвам "Рунь". Кніга гэтая, каторая зусім выпадкова трапіла ў маю хатнюю бібліятэку, была прачытаная на адным дыханьні - настолькі яна незвычайна-жахлівая, насычаная фактамі. (Што цікава, кніга ў ва многім напісаная на падставе амаль невядомых у нас матар'ялаў пра Другую сусьветную вайну заходніх дасьледчыкаў і архіваў). Канечне, гэтая праца не прэтэндуе на поўнае асьвятленьне падзеяў апошняй вайны, у ёй, хутчэй, усебакова распавядаецца пра трагедыю беларускага народу, генацыд беларусаў, які працягваецца ўжо бяз малага 300 гадоў. Падчас ваеннага ліхалецьця сярэдзіны 20 ст. быў забіты, замардаваны, спалены кожны трэці жыхар Беларусі - і ня толькі ў часе баявых дзеяньняў, але, у бальшыні сваёй, у ходзе карных апэрацыяў самых разнамасных "дабрадзеяў" беларускага народу, для якіх нашая Айчына была (і застаецца) толькі прывабнай да іхных імпэрскіх амбіцыяў (ці, як цяпер каэжуць, нацыянальных інтарэсаў) "тэрыторыяй з багатым людзкім матар'ялам".

Вайна ў кнізе Ю. Весялкоўскага паказваецца як сусьветная бойня, учыненая двума крывавымі й раўнацэннымі дыктатарамі Гітлерам і Сталіным. Біліся два тыраны, а цярпелі простыя людзі, на лёс якіх выпалі канцлягеры, ГУЛАГі, душагубкі, крэматорыі, Асьвенцым і Дахаў, Курапаты й Салаўкі, балоты й лясы, голад і хваробы, блуканьні на чужыне. У часе вайны на маладых сьвядомых беларусаў палявалі немцы, польскія й савецкія партызаны ды іншае ахвосьце. Вынішчэньне сьвядомых беларусаў працягвалася яшчэ доўгія гады пасьля заканчэньня вайны: па лясох туляліся банды Арміі Краёвай, па вёсках і пасёлках - супрацоўнікі НКУС. Ад такіх "апекуноў" дзясяткі тысячы беларусаў, цьвет нацыі, уцякалі на Захад.

Кніга Ю. Весялкоўскага насычаная фактамі, імёнамі, лічбамі, цытатамі. А лічбы, напрыклад, такія. З боку СССР у вайне загінула 26,5 млн. людзей (апошнія заходнія дасьледаваньні гавораць і пра 43,5 забітых). Аднак мы ніколі не даведаемся пра сапраўдную колькасьць ахвяраў. Аўтар піша пра герояў і здраднікаў, пра патрыётаў і калябарантаў, пра сьветароў і вернікаў, пра партызанаў і падпольшчыкаў, пра палонных і ўцекачоў. У Другой сусьветнай вайне брала ўдзел 61 краіна, ваенныя дзеяньні вяліся на тэрыторыі 40 дзяржаваў, загінула паводле самых сьціплых падлікаў бош за 50 млн. людзей. Аўтар прыводзіць жахлівыя зьвесткі пра пра людажэраў Гітлера й Сталіна, пра нацыстаў і бальшавікоў, пра прадажных іерархаў касьцёла й царквы, каторыя закінулі ў той час сваю душпастырскую дзейнасьць ды падаліся ў палітыку. Ніхто не шкадаваў жыцьцё простага чалавека.

Пераказаць кнігу немагчыма - яе трэба ўдумліва прачытаць, пазнаёміцца з фактамі й лічбамі, каторыя (калі іх чытаеш упершыню) проста агаломшваюць. Асабліва карыснай кніга будзе для маладога чытача, якому дарагі лёс Радзімы, сваякоў і блізкіх, якому трэба будаваць будучыню. Аўтару можна верыць, ён і ўдзельнік, і сьведка, і ахвяра тых жахлівых падзеяў. Ён піша: "...шчасьлівы той, хто пеpажыў гэтую вайну, аднак ён ніколі не забудзе яе". Кніга багата ілюстраваная альтэрнатыўнымі здымкамі й плякатамі з часоў Другой сусьветнай вайны.

**Валеры Ядранцаў**, *Чэрыкаў*

*Валеры Арцішэўскі*

# Апазыцыя – люстэрка палітычнага рэжыму

У верасьні 2002 г. ААН прыйняла ў свае шэрагі 191-ую дзяржаву. Ёй сталася Швэйцарыя. У пачатку-ж XX ст. на зямлі налічвалася ўсяго 52 сувэрэнныя дзяржавы, а ўжо напрыканцы таго самага стагодзьдзя – больш за 200. Пачатак XXІ ст. – апошняя стадыя дэкалянізацыі народаў сьвету. Развал дзяржаваў зь некалькімі карэннымі нацыямі ёсьць аб'ектыўны працэс, у якім праяўляецца *фундамэнтальны закон энэргітычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў*.

Дзяржавы маюць адрозныя формы кіраваньня, розныя палітычныя ды эканамічныя сыстэмы, аднак практычна ўсе кіруючыя палітычныя эліты робяць заявы пра дэмакратычны шлях разьвіцьця сваіх краінаў. Аналіз-жа сацыяльных працэсаў у розных краінах паказвае, што гэта далёка ад праўды. З тае прычыны сусьветная супольнасьць выпрацавала спосаб ацэнкі ўзроўню дэмакратычнасьці сацыяльных працэсаў у выглядзе *чатырох крытэрыяў*, якія ахопліваюць увесь спэктар жыцьцядзейнасьці соцыюму: *1) узровень дэмакратычнасьці выбарчай сыстэмы (ейная адпаведнасьць міжнародным стандартам); узровень свабоды СМІ (магчымасьць вольнага доступу апазыцыі да ўсіх дзяржаўных СМІ); спыненьне рэпрэсіўных мераў у дачыненьні палітычных апанэнтаў (спыненьне перасьледу паводле палітычных матываў); узровень паўнамоцтваў заканадаўчага воргану ўлады*. Дадзены спосаб ацэнкі дае безпамылковае ўяўленьне пра сутнасьць кожнай палітычнай сыстэмы кожнай дзяржавы незалежна ад жаданьня кіруючай эліты.

У кожнай, без вынятку, краіне ёсьць грамадзяне, каторыя ня згодныя са зьнешняю і ўнутранаю палітыкаю кіруючай эліты. Яны імкнуцца прапанаваць сваё бачаньне, свой шлях разьвіцьця краіны й аб'ядноўваюцца ў палітычныя партыі, якія атрымоўваюць афіцыйны дазвол ураду змагацца за права кіраваць грамадзтвам. *Сукупнасьць палітычных партыяў, падтрымліваючых іх грамадзкіх арганізацыяў і асобных грамадзянаў, якія прапануюць грамадзтву сваё бачаньне разьвіцьця краіны, адрознае ад таго, якое рэалізуе дзейная ўлада, называецца **апазыцыяй***.

Гэтая сацыяльная сіла заўсёды фармуецца з трох якасна адрозных групаў людзей.

Па-першае, апазыцыя заўсёды зьбірае пад свае сьцягі высокі інтэлектуальны патэнцыял. У апазыцыю ўваходзяць людзі знаючыя, думаючыя, умеючыя аналізаваць разьвіцьцё сацыяльных працэсаў, якія клапоцяцца пра дабро сваёй краіны, гатовыя ўзяць на сябе рэальныя функцыі ў справе ейнага ўзбагачэньня, матар'яльнага дабрабыту й духоўнага камфорту ейных насельнікаў.

Па-другое, тут абавязкова будуць прысутнічаць і іншага гатунку людзі, пра якіх лепш за ўсё сказаць словамі паэмы "Тарас на Парнасе":

Ну, словам, многа тут народу
Сабралась лезьці на Парнас:
Былі паны, было і зброду,
Як часам і на сьвеце ў нас.

Па-трэцяе, заўсёды ёсьць грамадзяне, якія падзяляюць ідэі апазыцыі. Калі гэтая група складзе больш 50% грамадзянаў краіны, яна прыводзіць апазыцыю да ўлады на чарговых выбарах.

Якую-ж ролю адыйграе апазыцыя для паступальнага руху краіны па шляху дэмакратычных пераўтварэньняў, матар'яльнага дабрабыту й духовага камфорту свайго народу? Ад чаго залежыць эфэктоўнасьць дзейнасьці апазыцыі? Дасьледуем гэтыя пытаньні з пазыцыі іхнай практычнай карысьці для асобнага грамадзяніна.

Апазыцыя заўсёды зьяўляецца канкурэнтам правячай палітычнай эліты на рынку палітычнай улады. Яна – адзіны аб'ектыўны фактар, які змушае ўладу служыць народу, і зьяўляецца лякмусавай паперкаю ўзроўню дэмакратычнасьці йснуючай улады. Аптымальны ўзровень дэмакратычнасьці дасягаецца, калі ўзровень свабоды СМІ, узровень выбарчага заканадаўства адпавядае вышэйназваным сусьветным стандартам. Пры гэтым перасьлед паводле палітычных матываў строга забараняецца, і толькі заканадаўчы ворган надзелены правам кантраляваць выкананьне дзяржаўнага бюджэту.

З экранаў тэлевізараў, у СМІ, у замежных выступленьнях прадстаўнікоў правячай беларускай эліты шырокай грамадзкасьці несупынна ўбіваецца ў голаў, што апазыцыя ў Беларусі адсутнічае, маўляў, ёсьць "адмарозкі", якія незадаволеныя ўладаю ды чыняць безпарадкі. Калі адмяжавацца ад асабістай непрыязьні беларускай улады ў стаўленьні да апазыцыі, дык сэнс падобных выказваньняў зводзіцца да сьцьверджаньня, што ўплыў апазыцыі на жыцьцё краіны роўны нулю. Гэта адпавядае рэчаіснасьці. У Беларусі йдзе палітычная, эканамічная, духоўная дэградацыя, ідзе паскоранае разбурэньне дзяржавы (рост п'янства, выміраньне нацыі, падзеньне жыцьцёвага ўзроўню, разбурэньне ладу жыцьця, уседазволенасьць пануючай эліты). ***У цэнтры Эўропы створанае ідэальнае асяродзьдзе сілкаваньня для тэрарызму й ідзе ягонае бурлівае нутраное разьвіцьцё.***

Разгледзім сытуацыю ў Беларусі з пазыцыі міжнароднай палітычнай эліты. Ліпеньская сэсія ПА АБСЭ 2002 г. на падставе вышэйзгаданых чатырох міжнародных крытэрыяў прыйняла рэзалюцыю ў дачыненьні Беларусі, у якой на дыпляматычнай мове канстатуецца, што ўзровень дэмакратычнасьці ў нашай краіне роўны нулю. Выходзіць, што і правячы рэжым, і міжнародная палітычная эліта ідэнтычна расцэньваюць сытуацыю ў Беларусі: ідзе дэградацыя краіны, г. зн. эвалюцыя Беларусі ў кірунку дэмакратычных пераўтварэньняў немагчымая. На жаль, далей слоўнай канстатацыі відавочнага факту справа ня йдзе, хаця міжнародная дэмакратыя выпрацавала эфэктоўныя мэтады ціску на падобныя рэжымы: зьнешнепалітычныя, зьнешнеэканамічныя, інфармацыйныя. Навідавоку стратэгічная памылка дэмакратычных сілаў міжнароднай супольнасьці на фоне ўзрастаючага глябальнага тэрарызму, бо дэмакратычная, нэўтральная Беларусь у цэнтры Эўропы магла-б быць аазісам стабільнасьці эўрапэйскага кантыненту. Менавіта Беларусь, паводле мэнтальнасьці беларускага народу, у першыя гады свае незалежнасьці паказала прыклад безальтэрнатыўнага раззброеньня. Беларускаму народу гістарычна блізкая ідэя сацыяльнай гармоніі, ідэя гарманічнага разьвіцьця соцыюму й прыроды. Прапануючы гэтыя каштоўнасьці сусьветнай супольнасьці, прапагандуючы іх як знутры краіны, так і па-за ейнымі межамі, дэмакратычная Беларусь магла-б актыўна ўдзельнічаць у фармаваньні ўстойлівага разьвіцьця сучаснага сьвету. Гарматы ніколі не вырашаюць праблему ўстойлівага разьвіцьця

Вяласьць рэакцыі эўрапэйскай супольнасьці на сацыяльныя працэсы ў Беларусі аб'ектыўна сьведчаць пра глябальную дэвальвацыю дэмакратычных каштоўнасьцяў і пашырэньне крызысу дэмакратыі. Эфэктоўна гэта прадэманстраваў прэзыдэнт Расеі. Ягоная адкрытая прапанова аншлюсу Беларусі Расеяй мае, на наш погляд, наўмэце наступнае: 1) падцьвердзіць сусьветнай супольнасьці факт усталяваньня новай канфігурацыі геапалітычных інтарэсаў вядучых краінаў, згодна якой Беларусь уваходзіць выключна ў сфэру інтарэсаў Расеі; 2) спыніць, праводзімы правячымі элітамі абедзьвюх краінаў, падман сваіх народаў, прыкрыты фігавым лістком «інтэграцыі», і адкрыта заявіць пра сапраўдную мэту замаруджваньня ў Беларусі дэмакратычных працэсаў, – жаданьне Расеі праглынуць Беларусь, 3) заявіць беларускай правячай эліце, што ў Крамлі ёй мейсца няма й што там абыйдуцца без «варагаў»; 4) паказаць сусьветнай супольнасьці поўную некампэтэнтнасьць правячай беларускай эліты кіраваць найбагацейшай краінаю Эўропы дэмакратычнымі мэтадамі, і, адпаведна, разьвязаць сабе рукі для касмэтычнага абнаўленьня рэжыму на свой расейскі лад.

Сэйшэльскія астравы дамагаюцца незалежнасьці, а краіне, якая была адной з стваральніцаў ААН, прапанавана зьнікнуць з геаграфічных мапаў!.. Безумоўна, з пазыцыі жырыноўшчыны Беларусь зьяўляецца салодкім кавалкам для Расеі: высокаразьвіты прамысловы й сельскагаспадарчы рэгіён, забясьпечаны высокакваліфікаванымі кадрамі, каля мільёна дысцыплінаваных, адукаваных салдатаў для «гарачых кропак» і г. д. Але стратэгічна, з пазыцыі сапраўдных дзяржаўных інтарэсаў Расеі ёй выгадная незалежная, нэўтральная, дэмакратычная Беларусь, а не Паўночна-Заходні край, які будзе ўзмоцнена разбураць Расею знутры – у цалкавітай адпаведнасьці з *законам энэргітычнай неэфэктоўнасьці вялікіх дзяржаваў*.

Аднак які-б інструмант не абрала Расея для касмэтычнай апэрацыі ў Беларусі, яўныя й прыхаваныя мэханізмы, што забясьпечваюць справядлівасьць прапанаванай ацэнкі ўзроўню дэмакратычнасьці, застаюцца нязьменнымі:

***Варыянт 1.*** Заканадаўчая база арыентаваная на максымальнае захаваньне чатырох крытэрыяў дэмакратычнасьці сацыяльных працэсаў у краіне. Узровень дэмакратычнасьці рэжыму расьце, адпаведна, эфэктоўнасьць і моц апазыцыі таксама павялічваецца. Разбуральныя сілы ў грамадзтве зьменшваюцца (і гэта знаходзіцца ў поўнай адпаведнасьці з *фундамэнтальным прынцыпам самаарганізацыі матэрыі*).

***Варыянт 2.*** Заканадаўчая база арыентаваная на максымальны ўціск правоў, палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў, грамадзянаў, г. зн. расьце ступень невыкананьня рэжымам чатырох крытэрыяў. Апазыцыя пазбаўляецца правоў, свабодаў, фінансаў, СМІ. Яна ня можа выконваць свае функцыі нават у мінімальным памеры – над апазыцыяй ствараецца празрысты, моцны каўпак, каторы адмяжоўвае яе ад астатніх грамадзянаў краіны. Палітычны рэжым уважліва аналізуе сытуацыю пад каўпаком, фіксуючы любыя зьмены сытуацыі. Калі спатрэбіцца, у адпаведнае мейсца і ў адпаведны час, робіцца ін'екцыя, каб прывесьці апазыцыю ў бездапаможны стан – прымусіць займацца яе *псэўдадзейнасьцю*, г. зн. растрачваць інтэлект, энэргію, чалавечыя рэсурсы, фінансавыя сродкі ўхаластую. Дзеля гэтага выкарыстоўваецца ўсё: палітычная некампэтэнтнасьць, амбіцыі, запалохваньне людзей, стварэньне перашкодаў у грамадзкай дзейнасьці, а таксама й правакацыйныя элемэнты, што знаходзяцца ў радох апазыцыі. Разбуральныя сілы грамадзтва набіраюць абароты, імкліва растуць (у поўнай адпаведнасьці з *прынцыпам сэнэргетыкі*).

Палітычны ляндшафт беларускай апазыцыі рэзка мяняецца. Спатрэбіцца нямала часу для нутраной перабудовы апазыцыі, каб яна зноў паспрабавала (хаця-б ускосна) паўплываць на сацыяльныя працэсы ў краіне. Аднак рэжым не пакіне апазыцыю без нагляду, і ён мае шмат яўных і прыхаваных вагароў, каб кіраваць апазыцыяй на свой капыл. А між тым стан апазыцыі (ейная эфэктоўнасьць, уплыў на сацыяльныя працэсы ў дзяржаве) зьяўляецца дакладным індыкатарам, люстэркам дэмакратычнасьці існуючага рэжыму, матар'яльнага й духоўнага камфорту кожнага грамадзяніна, стану краіны ў цэлым. У Беларусі, на вялікі жаль, большая частка насельніцтва не разумее ролі апазыцыі для свайго дабрабыту. У гэтым «заслуга» правячай эліты. Рэжым мае магчымасьць, выкарыстоўваючы ўсю моц дзяржаўнай машыны, безпакарана шальмаваць, абліваць брудам апазыцыю, прыпісваць ёй любыя недарэчнасьці. Рэжым перакана્ны ў няздольнасьці народу зразумець, што апазыцыя гэта адлюстраваньне самага рэжыму (як у той байцы: «Мартышка, в зеркале увидев образ свой...»). І, сапраўды, пакуль што пераважная большасьць грамадзянаў краіны глядзіць на адбітак у люстэрку, а не на арыгінал.

Аднак, калі больш 50% насельніцтва краіны зразумее, што кепская апазыцыя толькі адбітак з яшчэ больш кепскага арыгіналу (правячага рэжыму), тады прапагандысцкая машына пачне, паміма волі, працаваць на апазыцыю. Гэты будзе пераломны пэрыяд у далейшым лёсе краіны.

І яшчэ адно. Беларускаму грамадзтву давядзецца ўсьвядоміць, што сёньня ні Захад, ні Ўсход не акажуць сур'ёзнай дапамогі Беларусі ў справе дэмакратызацыі ейнага рэжыму. У іх маецца больш прыемная забава – гарматамі ўсьміраць тэрарызм. Так выглядае, што Беларусі самастойна давядзецца пакончыць з антынародным рэжымам...

Аўтар артыкулу зьвяртаецца да інтэлігенцыі, да прадпраймальнікаў, да сьвядомых, палітычна арыентаваных людзей з заклікам уступаць у шэрагі пакуль яшчэ слабых беларускіх апазыцыйных партыяў. Кожная заява ў партыю – гэта аб'ектыўнае, рэальнае паслабленьне рэжыму дэспатыі, гэта сіла, якая паверне краіну на шлях дэмакратычных пераўтварэньняў. Толькі моцныя (шматлікія) партыі з высокім інтэлектуальным і маральным патэнцыялам могуць зрабіцца, пры іх усенароднай падтрымцы, вядучым зьвяном дэмакратычных ператварэньняў у краіне. Партыя – гэта бізун для ўлады ў руках народу, які стварае свой матар'яльны й духоўны дабрабыт. Іншага досьведу чалавецтва ня мае. І беларускаму грамадзтву давядзецца ўсьвядоміць гэта – і лепш раней!

**Дабраславіў ейнае зьяўленьне сьветлай памяці Першагерах Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліт Мікалай, а пераклад зрабіў Васіль Сёмуха, адзін з самых выдатных сёньня ў Беларусі майстраў мастацкага перакладу. На чорнай вокладцы Кнігі залатою фарбаю выцесьнены хрысьціянскі сымбаль Беларусі – шасьціканцовы крыж Сьв. Еўфрасіньні Полацкай. У лісьце, які прыйшоў на рэдакцыю разам зь "Бібліяй", гаворыцца:**




Біблія ў нацыянальнай мове ёсьць як-бы завяршальны этап праверкі нацыі на сталасьць, калі хочаце – рэалізаванасьць. Дзьве першыя спробы перакладу Бібліі – Франьцішка Скарыны на старабеларускую мову ды Янкі Станкевіча на віленска-літоўскі дыялект – не былі прызнаныя царквой. Гавораць, Пан Бог любіць троіцу. Шчыра спадзяемся, што трэці варыянт перакладу будзе прыняты як цэрквамі, так і беларускім народам. Маем вялікае спадзяваньне, што плён 14-гадовае працы вядомага беларускага перакладчыка Васіля Сёмухі станецца значным унёскам у справу дасягненьня поўнага паразуменьня і ўсталяваньня хрысьціянскае еднасьці паміж вернікамі ўсіх канфэсіяў Беларусі. Спадар Васіль на этапе перакладу сьвядома не карыстаўся падтрымкаю ніводнае з хрысьціянскіх канфэсіяў, маючы на мэце, што Біблія ёсьць каштоўнасьць Агульнанацыянальная, Агульначалавечая.

У вадрозьненьні ад двух першых перакладаў, гэтая Біблія ўжо ёсьць кананічная, бо выдадзеная з блаславеньня мітрапаліта Мікалая, галавы Беларускай Праваслаўнай Царквы ЗША і Канады, а таксама Хрысьціянскай пратэстанцкай місіяй у Канадзе. Фінансавалі выданьне прадстаўнікі нацыянальнае дыяспары з Канады, ЗША, беларускія бізнэсоўцы. З часткаю фундатараў была дасягнутая дамоўленасьць аб вяртаньні ўкладзеных імі грошай па меры распаўсюджаньня Бібліі.

У ідэале вельмі хацелася-б, каб Кніга не прадавалася, а раздавалася ўсім ахвотным у цэрквах, касьцёлах, малельных дамох, таксама пажадана было-б падарыць Біблію школкам, дзіцячым садкам, дзіцячым дамам. Перадаць колькі соцен асобнікаў Міністэрству ўнутраных справаў, Міністэрству абароны, КДБ (моституць крыху дабрэйшымі). Таму вымушаныя зьвярнуцца да вас з просьбаю знайсьці людзей, якія змогуць выкупіць частку накладу й данесьці Слова Божае ў беларускай мове да сэрца кожнага беларуса. Нашыя каардынаты:

**e-mail: biblia@tut.by; тэл: (+375) 296 522875; тэл/факс: (+375 17) 2893194.**

*Галіна Сутула*

# Усход – справа тонкая...

## Нататкі слухачкі Міжнароднай школы правоў чалавека ў Мядзешыне, Варшава

Калі параўнаць краіны, што паўсталі на тэрыторыі былога СССР, на наяўнасьць у іх "парастказ" дэмакратыі ды на ўзровень жыцьця простага люду, дык, як ні горка, Беларусь займае 13-ае мейсца сярод былых "сёстраў па савецкаму няшчасьцю". За Беларусьсю ідзе Ўзьбекістан, а замыкае сьпіс – Туркменістан. (На фоне апошняй жыцьцё нават у нашай Беларусі выглядае больш менш прыстойна).

Калі гаварыць пра Ўзьбекістан, дык усходняя традыцыя ўшанаваньня старэйшых і правіцеляў-правадыроў дайшла тут да абсурду. Становішча ўзьбекаў пагаршаецца й жорсткімі мэтадамі праўленьня прэзыдэнта Іслама Карымава, які бяз стомы "рулюе" краінаю ўжо 13 гадоў і ня бачыць годнай для сябе замены. Гэта пацьвярджае й нядаўні, ініцыяваны й інсцэнаваны ўзьбекскаю ўладаю рэфэрэндум, "аднадушна" падтрыманы ўсімі грамадзянамі краіны. (Ці не паводле такога самага сцэнару праводзіўся й рэфэрэндум у Беларусі?) Зразумела, тэрмін праўленьня дзеючага прэзыдэнта ў выніку таго рэфэрэндуму й "на просьбу працоўных" быў працягнутына яшчэ на адзін тэрмін. Толькі вось засталося невядома, на які: на 2, на 7 ці на ўсе 13 гадоў? Галоўнага народу так і не растлумачылі. А й навошта забіваць яму галаву рознай лухтой? У працоўнага-ж народу й без таго клопатаў шмат: бавоўну трэба садзіць, вырошчваць, зьбіраць, здаваць ды неяк жыць. У сярэднім узьбекі атрымоўваюць заробак 10-15 дал. у месяц. На маё пытаньне, як можна пражыць на такую зарплату, узьбечка Уміда пацiснула плячыма й паказала агульны сьнытак, на вокладцы якога быў намаляваны ўзьбек-бавоўнароб: перазагарэлы твар у густых глыбокіх зморшчынах, запалыя шчокі, бяззубая ўсьмешка. Іхны "шчасьлівы" ўзьбек быў да болю падобны да беларускага калгасьніка: тая самая ўдаваная ўсьмешка, той самы змучаны твар і пустыя, бяз кроплі надзеі, вочы...

Пагартала я ўзьбекскую рэспубліканскую газэту "Правда Востока" (расейскамоўны варыянт). Наклад у параўнаньні з "Советской Белоруссией" невялікі – усяго 8407 асобнікаў. Але Ўміда сказала, што на ўзьбекскай мове наклад значна большы. У газэце ў асноўным законы, загады, афіцыйныя артыкулы. Шмат пішацца пра посьпехі й дасягненьні працоўных калектываў. Чытаю: настаўніца-ўзьбечка перамагла на конкурсе прафэсыйнага майстэрства. Аказваецца, у гэтым ня ейная заслуга, а заслуга прэзыдэнта Карымава, які стварыў адпаведныя ўмовы для перамогі. Тыповае савецкае ашуканства. Уміда кажа, што людзі гэтае разумеюць, аднак "Правду Востока" выпісваць прымушаюць. У кожным нумары газэты павінна згадвацца імя Карымава. Калі гэтага няма – газэту папросту прыкрываюць. Нягледзячы на гладка напісаныя, як і ў Беларусі, законы, напрыклад, закон пра забарону цэнзуры, гаварыць пра тое, што разыходзіцца з афіцыйным пунктам гледжаньня, небясьпечна дый немагчыма. Незалежных выданьняў ва Ўзьбекістане няма, няма грамадзкіх арганізацыяў хаця-б зь невялікім палітычным адценьнем, а іншадумцы або сядзяць у турме, або бягуць праз Казахстан на Захад, просяць палітычнага прытулку...

* * *

І ўсё-ж ня трэба забывацца на тое, што ўсьлед за Ўзьбекістанам у сьпісе аўтсайдэраў (на першым мейсцы адзаду) стаіць Туркменістан. Прэзыдэнт краіны Сапармурат Ніязаў, а называюць яго ўсе Туркмен-башы, адзіны з прэзыдэнтаў 15 былых савецкіх рэспублікаў, каторы пры жыцьці панаставіў сабе незлічоную колькасьць помнікаў. Вялікія й меншыя, абавязкова пазалочаныя, яны параскіданыя па ўсіх туркменскіх гарадох і аулах. У сталіцы, само сабой, таксама высіцца высозны пазалочаны манумэнт Туркмен-башы, які з-пад рукі-шапіка ўглядаецца ў мройную далячынь. Фігура на пастамэньце круціцца вакол свае восі, каб з-пад пільнага вока "бацькі" ня высьлізнуў ніводны туркмен. Вуліцы, плошчы, пасяленьні носяць імя Туркмен-башы. Штучнае мора, якое хутка пачнуць капаць, таксама будзе называцца ягоным іменем. Партрэты правадыра глядзяць ня толькі са сценаў, але й з грашовых знакаў. Праўда, туркмены зараблюць у пераводзе на іхныя грашовыя знакі яшчэ менш, чым узьбекі. А таму Туркмен-баша не баіцца, што ягоны лоб замусоляць заскарузлыя пальцы туркменаў-працалюбцаў.

Туркмен-баша, як і наш айчынны "бацька", таксама любіць выклікаць "на кавёр" сваіх міністраў і ўстройваць ім прынародныя "нагаяі". Любіць гуляць у кадравыяператасоўкі. Найбольшых "злодзеяў", а ў сапраўднасьці тых, хто нечым не дагадзіў Туркмен-башы, ён карае, адбірае ў іх шыкоўныя асабнякі ды перадае на патрэбу дзіцячых інтэрнатаў. Народу такое падабаецца, ён не задумваецца, што ў краіне, дзе пануе дыктат, ня можа быць сумленных чыноўнікаў.

Зразумела, што ў Туркменіі, як і ў суседнім Узьбекістане, няма незалежных выданьняў, апазыцыйных партыяў ці іншадумцаў. У краіне па ўсіх трох нацыянальных тэлевізійных каналах адзіная застаўка – залатая фігура Туркмен-башы. Большая палова газэтнай прасторы займаюць вяшаваньні Туркмен-башы з нагоды шматлікіх дзяржаўных сьвятаў зь ягонымі фатаздымкамі ды хвалебнымі артыкуламі ў ягоны гонар. А самае галоўнае нацыянальнае сьвята – дзень нараджэньня самаго Туркмен-башы. У гэты дзень усе туркмены ў абавязкова-дабраахвотным парадку павінны купіць нацыянальныя сьцяжкі, прымацаваць іх да свайго жытла ды, напэўна, выпіць за здароўе "дарагога, адзінага й самага мудрага", што, зрэшты, і ня ток ужо кепска ў іхным бязвыйсьцным становішчы.

І яшчэ адна цікавая акалічнасьць. Туркмен-башы, аказваецца, вельмі клапоціцца пра нацыянальнае багацьце краіны, якім зьяўляюцца, на ягоную думку, маладыя туркменкі – ткальлі ўзорыстых туркменскіх дываноў. У заканадаўчым парадку туркменкі пастаўленыя ў рабскую залежнасьць ад волі дзяржавы. Пра якую роўнасьць можна гаварыць, калі закон забараняе дзяўчатам распараджацца сваім лёсам. Калі, да прыкладу, на туркменку "паклаў вока" іншаземец, захацеў зь ёй жаніцца ды забраць у сваю краіну, дзяржава ставіць умову: заплаці, жанішок, 50 тыс. даляраў у дзяржаўную казну, а тады ўжо едзь з маладою куды заўгодна. Добра, калі іншаземец багаты, а калі не? Дзяржава фактычна гандлюе людзьмі. Выдаць туркменку замуж задарма, каб яна бясплатна ткала дываны іншаземцам? Шкада! Туркменкі-ткальлі – нацыянальнае багацьце. Туркменія на дыванах бізнэс робіць. А людзей прадаваць можна – needed кошту дываноў, якія-б туркменка саткала ад нараджэньня да сьмерці. Каб гандаль рабынямі-туркменкамі ня надта кідаўся ў вочы прадстаўнікам чужой культуры, яго выстаўляюць як клопат пра грамадзянаў, маўляў, калі сямейнае жыцьцё ў туркменкі за мяжою не атрымаецца, атрыманы за яе калым пойдзе, пасьля ейнага вяртаньня на радзіму, на харчаваньне, выхаваньне й вучобу ейных дзяцей.

Да ўсяго сказанага трэба дадаць, што ніякага інфармаваньня пра тое, што адбываецца ў краіне і ў сьвеце ў Туркменістане няма. Гэта – закрытая тэма. Перадаваць такую інфармацыю строга забараняецца, у Туркменіі нельга нічога фатаграфаваць, здымаць на відыёкамэру, запісваць на стужку. Спэцворганы там ня дрэмлюць. Усход – справа тонкая...

І ўсё-ж адзін пазытыў у дзеяньнях Туркмен-башы ёсьць: ён, у адрозьненьні ад некаторых, паважае родную мову, векавыя традыцыі свайго народу. Нядаўна звольніў з працы міністра замежных справаў за тое, што ён ня ведаў туркменскай мовы.

А што да ідэалёгіі, дык яна ў Туркмен-башы на першым мейсцы. Вось, напрыклад, нядаўна пакінуў сваю пасаду туркменскі пасол у Турцыі, сьмела заявіўшы (божа ты мяжою знаходзячыся), што пераходзіць у апазыцыю, і папрасіў палітычнага прытулку ў адной з заходніх краінаў. Нарабіў ён пярэпалаху ў прэзыдэнцкай рэзыдэнцыі Туркмен-башы. У рэзыдэнцыю тэрмінова былі пакліканыя супрацоўнікі турэцкай амбасады, была сур'ёзная размова, "інструктажы", кадравая "чыстка". Пасьля чаго ўсе прысутныя пакляліся на вернасьць Туркмен-башы.

* * *

Згадваючы нядаўнія падзеі ў Беларусі (помніце, як нашыя ваенныя кляліся на вернасьць "бацьку"?), пачынаеш разумець, што ягоныя сяброўскія сувязі з Усходам даюць свой плён. Ёсьць, аказваецца, чаму павучыцца й там. Праўда, карысьць ад гэтае вучобы мае ўсяго адзін чалавек. Аналізуючы мэтады кіраваньня ва Ўзбэкістане, Туркменістане і ў Беларусі прыходзіш да цікавай высновы, што мэтады гэтыя амаль аднолькавыя. Пра што гаворка? Чаму так? Нечакана высьветлілася, што ва ўсіх трох кіраўнікоў-правадыроў было несалодкае дзяцінства. Адзін рос бяз бацькі, другі выхоўваўся ў інтэрнаце, у трэцяга таксама ў сям'і жыцьцё было "ня мёду піцьцё". Але-ж у тысячаў людзей былі падобныя складаныя лёсы. Гэта так. Толькі гэтыя тысячы не зрабіліся кіраўнікамі краінаў і іншых людзей. А гэтая тройка "дарвалася да руля". Няўжо, пагараваўшы ў дзяцінстве, яны помсьцяць цяпер бедамі й няшчасьцямі іншым, каб атрымаць маральную кампэнсацыю за мінулае?

* * *

Ня вельмі вясёлкавыя прагнозы адносна будучыні выказвалі прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў Расеі. Большасьць зь іх вельмі крытычна ставіцца да нацыянальнага характару рускіх й згодная з тым, што ў іншых краінах бывае ціха й спакойна датуль, пакуль да іх не заявіцца рускі "мядзьведзь" зь неўтаймаванай энэргіяй і непераадольнаю ахвотаю пажывіцца за чужы кошт. І да палітыкі цяперашняга расейскага прэзыдэнта мае суразмоўнікі ставіліся абачліва, з прахаладай, адзначаючы, што іхны прагматычны кіраўнік пераўтварае краіну ў шпіёнскую дзяржаву. І да вайны ў Чэчэніі ў расейскіх праваабаронцаў адносіны не такія самыя, як у расейскага чынавецтва: "Далі-б магчымасьць чэчэнцам жыць самастойна – і ў Расеі было-б спакойна. Не было-б пахаваньняў, не было-б сіротаў". Аднак у прэзыдэнта ў адносінах да Чэчэніі свой інтарэс, і яму ўсё роўна, колькі тысячаў жыцьцяў аддадуць расейцы ў кошт гэтага інтарэсу.

* * *

І ўсё-ж на Ўсходзе ня ўсё так і кепска. Казахі, напрыклад, гаварылі, што людзі ў Казахстане пачалі жыць лепш, чым у суседніх краінах. Дзяржаўная мова – казахская, аднак мовай нацыянальных зносінаў прызнаная руская мова, бо ў краіне ці не палова рускамоўнага насельніцтва. Як і ў Беларусі, казахскі прэзыдэнт назначае й здымае судзьдзяў, пракурораў ды іншых высокіх кіраўнікоў. Прычына – карупцыя. Аднак цяпер аклады судзьдзяў ды пракурорпаў падняліся да 300 даляраў. (Для параўнаньня, настаўнікі там атрымліваюць каля 100 даляраў). У краіне дазволены прыватны бізнэс і вельмі спрошчаная працэдура рэгістрацыі прадпрымальніцкай дзейнасьці – яе можна прайсьці ўсяго за 3 дні! За 10 дзён можна зарэгістраваць грамадзкую арганізацыю. У парляманце працуюць прадстаўнікі ажно 4-ох партыяў. Ёсьць незалежныя СМІ.

Старшыня нацбанку Казахстана паабяцаў прэзыдэнту, што ў бліжэйшы час у краіну паступяць значныя інвестыцыі й што прыбытак краіны хутка складзе 2 млрд. дал. у год. Калі такое здарыцца, ён паголіць бараду на знак выкананага абяцаньня. І цераз год казахі ўбачылі па тэлевізіі свайго галоўнага банкіра без барады. Прэзыдэнт пакінаў яго на пасадзе яшчэ на два гады й народ падтрымаў такое рашэньне.

Большасьць пасадаў у Казахстане займаюць рускамоўныя, аднак яны працуюць на карысьць той краіны, у якой жывуць, якая корміць і поіць іх. Інакш і ня можа быць!

Жыцьцё казахаў паволі набывае цывілізаваныя рысы. Кажуць, калі пасол Казахстану прыехаў у Беларусь, яму здалося, што ён патрапіў у адрэстаўраваны Савецкі Саюз. А мы, беларусы, усё ідзем "сваім шляхам", і гэты шлях далей, чым да сьметніка гісторыі, нас не давядзе.

*...Эўропа апошнімі часамі робіць спробы спаборнічаць з ЗША на міжнароднай арэне. Асабліва добра гэтае відаць у ейных спробах змаганьня з тэрорам. У сапраўднасьці-ж, Эўропа без ЗША ня ў стане разьвязваць канфлікты вялікага памеру. Ёй яшчэ далёка да той супэрдзяржавы, якой на сёньня зьяўляецца Амэрыка. Нават Балканскага канфлікту яна сама ня здолела-б вырашыць. А таму, што яна вымушана быць партнэрам ЗША на міжнароднай арэне, стараецца падсоўваць свае меркаваньні, ганарліва йдзе ў разрэз з амэрыканскай палітыкай. Важным партнэрам ЗША ў эўрапэйскай палітыцы зьяўляецца й Расея, зь якой, быццам, трэба вырашаць канфліктныя пытаньні краінаў былога Савецкага Саюзу. Амэрыка стаіць на прынцыпах самавызначэньня народаў, спрыяе й падтрымоўвае іхную незалежнасьць. Гэтым і тлумачыцца вайсковая й цывільная прысутнасьць ЗША амаль ва ўсіх краінах былога СССР: у Кыргізстане, Азэрбайджане, Таджыкістане, Узбэкістане, Арменіі, Грузіі, Казахстане. У інтарэсах Амерыкі зьяўляецца таксама падтрымка Украіны, Беларусі, Малдовы й Чэчэніі. У выпадку хуткага й рашучага разгрому Іраку большая ўвага будзе зьвернутая на Украіну й Беларусь. У процівагу ЗША Расея ў адзначаных вышэй краінах Каўказу й Сярэдней Азіі стараецца пападпісваць пагадненьні супраць тэрарызму, але спаборнічаць тут з амэрыканскім капіталам будзе цяжка.*

***"Цыркуляр" № 58, 1 студзеня 2003 г.***

Зьдзіслаў Сіцька

# Успаміны, умаяваныя словам...

*«Май - бярэзінкі ды іншыя зялёныя дрэўцы, пастаўленыя перад вокнамі дому на Сёмуху».*
І. І. Насовіч. «Слоўнік беларускай мовы»

Сёлета нам вяртаецца яшчэ адна часьцінка духоўнай спадчыны філяматаў і філярэтаў. Да перакладаў паэмаў Адама Міцкевіча далучыцца том успамінаў ягонага сябра Ігната Дамейкі «Мае падарожжы. Дзённікі выгнанніка», выданьне якога рыхтуе «Беларускі кнігазбор». Гэтая кніжка прывабіць чытачоў насамперш аповедам пра падзеі паўстаньня 1831 г., удзельнікам якіх быў Ігнат Дамейка.

А вось напярэдадні юбілейных урачыстасьцяў, якія адбудуцца сама менш у пяці краінах, нам карціць даведацца, кім ён пачуваўся, ці думаў ён пра Бацькаўшчыну, ці ня выракся роднага краю, суайчыньнікаў, мовы, якую ягоны сябра Адам Міцкевіч называў самай старажытнай з славянскіх моваў і дасканала распрацаванай? У дзёньніках Ігната Дамейкі выразна выяўляецца дваістасьць ягонага самаўсьведамленьня. Вось, мабыць, самы яркі прыклад. «Уся мясцовая прырода настолькі была падобна да шмат якіх нашых ліцьвінскіх мясьцінаў, што, задумаўшыся, я звярнуўся да гаспадара па-польску». Дамейка захапляецца палеткамі пшаніцы й запісвае сваё ўражаньне пра «шапаценне пад ветрам пшанічных каласоў... пошум, здавалася, шаптаў мне па-польску ці па-руску, як нашы сяляне гамоняць пад час працы». Ігнат Дамейка называе сябе палякам, і гэта нібы пацьвярджаецца мовай, на якой напісаныя ягоныя «Дзёньнікі...», ды, скажам, такімі - пра самага сябе - выразамі: «сэрца польскага каталіка», «...бо пра Польшчу думаў». Але амаль побач чытаем: «нам, ліцьвінам», «нас, ліцьвіноў», «не да смаку гэта было ліцьвіну з краю, багатага на луг і пашы ды чароды рагатага быдла». Ён - і паляк, ён - і ліцьвін, «сын ліцьвінскіх лугоў і палёў».

Але ня толькі з гэтых словаў вынікае: Дамейка лічыў сябе ліцьвінам, што цяпер раўназначна слову беларус. І калі ў «Дзённіках...» ён штосьці параўноўвае, дык выкарыстоўвае слова наш. У ягоных успамінах нашы - беларускія мястэчкі («Ліда ці Ашмяна»), рэкі, гаі, дрэвы... Так, на высьпе Мадэйра Дамейка ўбачыў фартэцыю, «ня большую за Навагарадзкі замак». І тамжа, у горадзе Фуншал, у садзе атрэсеныя цытрыны й апэльсіны валяліся, гніючы, на мураве, «як яблыкі або грушы ў гусьце нашым (хочацца дадаць - медзьвядзкім, сачыўкаўскім, жыбуртоўшчынскім або запольскім, дзе сам Ігнат прышчэпваў дрэўцы) садзе». І там-жа Ігнат упершыню ўбачыў апэльсінавыя й цытрынавыя дрэвы. Яны падаліся выгнаньніку «яблынямі з срэбранымі й залатымі яблыкамі», а сам ён «сярод іх стаяў, нібы наймалодшы з трох братоў нашых дзіцячых казак». (Ці-ж не беларускія казкі баяла Ігнасю ды ягоным братам і сёстрам у дзяцінстве тая медзьвядзкая нянька Тадора?)

Па дарозе з Буэнас-Айрасу ў Чылі, на падыходзе да галоўнага хрыбту Кардыльераў, спадарожнікі Дамейкі ўбачылі на скалах статак ламаў і стараліся напалохаць іх, «як у нас хлопцы палохаюць зайца, калі ўбачаць яго на полі...» І ўжо на вяршыне «самага найвялікшага і, магчыма, наймалодшага горнага ланцуга ў сьвеце», падарожных стрэў такі моцны вецер і шалёная завіруха, што «ніякая бура, ні нашая зімовая замець ня могуць ісці зь імі ў параўнаньне». Варта падаць яшчэ некалькі Дамейкавых параўнаньняў. Гуанака (лама) «не вышэйшая ад нашага аленя»; пяшчаныя віхраслупы ў пустыні «падобныя да слупоў дыму, што ўзнімаюцца ў пагодны дзень з нашых гасьцінных камінoў». Рэкі, якія Дамейку даводзілася пераходзіць уброд або цераз якія ён перапраўляўся ў чаўне, параўноўваюцца з Шчараю, Віленкаю пад Вільняй. Прыкладам, араўканская рака Каўцін - «крыху меншая ад нашага Нёману ў Коўне». А варта згадаць, што ягоную шырыню Дамейка добра ведаў, бо ўлетку 1831 г. не аднаго разу пераплываў Нёман на лодцы, каб праверыць паўстанцкую старожу на процілеглым беразе.

І калі наш зямляк, пражыўшы шмат гадоў у пустыннай мяйсцовасьці Паўночнага Чылі, выправіўся ў падарожжа на поўдзень, у Араўканію, там ён любаваўся лясьнымі краявідамі. Дамейка ехаў і марыў пра родны дом ды здавалася яму, «што бачыць тыя самыя дрэвы, хмызы, да якіх прывык з дзяцінства, якія на радзімай зямлі растуць». І дарога ў Араўканскай пушчы «ня больш відочная, як сьцежкі ў нашых вялікіх лясох, якімі нашыя дзеці ходзяць у грыбы і па ягады». А таму там «лёгка заблудзіцца, як у Белавежскай пушчы».

Ды, як здаецца, Дамейка толькі жыў у Чылі, а ягоная душа была на роднай Навагарадчыне, і пра тое сьведчыць фрагмэнт «Дзённікаў...»:

«31 студзеня. Пачынала днець за Андамі, калі мы селі на коней. Раніца была гожая, а хоць не чутно і не відно было птушак, не было зёлак і расы, бо і раса ня любіць пяску і скалаў, адчувалася штосьці ў паветры, што прыпомніла мне нашыя ранкі, што ажыўляла, маладзіла розум. Я адчуваў сябе дужым, хоць і быў невясёлы.

Пырхалі коні; я ехаў павольна, моўчкі, угледаючыся ў блакітнае неба, бо не было на што глядзець на зямлі. Праваднік і мой слуга ехалі нібы з нявыспанымі тварамі. Не было канца пустыні.

Калі раптам нібы разарвалася сухая раўніна, па якой ехаў, - я апынуўся на краі глыбокага вузкага яру, дно якога было цалкам услане зялёнаю муравою і аздобленае агромістымі букетамі фігавых дрэваў. А паміж імі бялелі некалькі дамоў. Па стромай сьцежцы мы спусьціліся да аднаго з іх. На двары парабак абчэсваў бервяно. Мы затрымаліся ў цяньку духмяных, разложыстых фігавых дрэваў, каб астудзіцца свежымі брэвас - іх першымі пладамі. У той-жа момант я ўчуў нейкі водар, знаёмы мне, добра знаёмы, мілы, і адразу ня мог здагадацца, што гэта магло быць. Я падышоў да таго бервяна і быў зачараваны водарам нашай баравой жывіцы. Я пазнаў, што гэта была хвойка добрага гатунку, як тыя, якія з нашых лясоў плытагоны гоняць у Каралевец. Я запытаўся ў парабка, адкуль гэтае бервяно, а ён адказаў мне, што год таму разбіўся «на наша шчасьце» тут непадалёку нейкі нямецкі карабель, а можа ангельскі - хто ведае? - і маем дастаткова драўніны амаль задарам. Хто ведае, - падумаў я, - гэтае бервяно, можа, - сын нашай Белавежскай ці Калдычэўскай пушчы, дзіўным лёсам, як я, выкінуты ў гэтую заморскую пустыню».



Ігнат Дамейка каля 1833 г. Паводле акварэльнага партрэта Юзафа Шымана Куроўскага.

На адной старонцы «Дзённікаў...» Дамейка прызнаецца, што хацеў даць уяўленьне сваім землякам, «якія ніколі ў жыцьці не бачылі іншага краю, апроч нашага, усяго зялёнага, прыгожага й загаспадараванага, нашых вёсак і двароў, чым багатая шахта ў Амерыцы, гара, з якой штогод сыплецца два мільёны рублёў срэбрам...» І ўвогуле, ён пісаў «для сябе і для маіх сяброў-землякоў» «толькі нататкі», «якія, калі Бог дазволіць, можа калісь прыдадуцца якомусь ласкаваму чытачу ў Мірскай, Паланэцкай ці Сталавіцкай парафіі, каб правесьці снежаньскі вечар».

Таму Ігнат Дамейка вядзе свой аповед лёгка, вольна, падобна, «як нашыя сяляне гамоняць падчас працы». Знаёмыя яму зь дзяцінства слоўцы натуральна, як кропля дажджу ў рачную плынь, уліваюцца ў кантэкст. У замалёўках прыроды, апісаньні забудоваў, побыту, у развагах пра падзеі трохсотгадовага змаганьня араўканцаў за сваю незалежнасьць - усюды «нашыя»: {«старыя граматычныя формы, рэгіянальныя выразы, такія як: зьвеж, назьвіско» (паводле польскай граматыкі, зьмякчэньня літары «з» не павінна быць; значыць, так выявілася «генэтычная» асаблівасьць вымаўленьня медзьвядзкага шляхціча - асаблівасьць беларускай мовы - З.С.); «і асаблівыя каструкцыі: пытаўся ў яго, па-за самым берагам, нагодай да гэтага страху». На жаль, толькі на некаторыя асаблівасьці Дамейкавых мовы й стылю «звярнулі ўвагу польскія выдаўцы-рэдактары «Маіх падарожжаў. Дзённікаў выгнанніка»}.

Польскія выдаўцы Дамейкавага рукапісу (польскамоўны рукапіс выдадзены знакамітым «Асалінэумам» - і пераклад на беларускую мову зроблены з гэтага выданьня) не асмеліўся сказаць, што ў «Дзённіках...» шмат беларусізмаў. Без іх наш суайчыньнік ня мог абысьціся, бо стараўся, каб апісаньне было зразумелае чытачам у Літве. І ў тэксце «Дзённікаў...» чытаем пра зьяву прыроды «бура з навальніцай»; пра граніт, «што распадаецца на жарству», (апошняе слова польскаму чытачу незнаёмае, а таму рэдактары тлумачаць яго іншым агульным для беларускай і польскай лексыкі словам жвір, якое, дарэчы, Дамейка ўжывае часта); пра даўнія індзейскія магілы, «падобныя да нашых курганоў», і «вялікія курганы» пустой пароды каля капальняў; пра шахту, у якой Дамейку давялося перажыць землятрус «на глыбіні 150 да 200 сажняў».

Тлумачэньне спэцыфічных паняцьцяў Дамейка спалучае з паэтычнай вобразнасьцю. Вось, на ўбярэжжы, ён убачыў «сьляды колішніх, спрадвечных, узроўняў мора, якое сёньня яшчэ шуміць на тым самым мейсцы, дзе яго затрымаў Творца, толькі мацярык узнімаецца... несучы на сваіх плячах магутныя Кардыльеры» і выкарыстоўвае для апісаньня ўражаньня родныя, беларускія рэаліі: «я стаяў, як укопаны, і конь мой быў спакойны; ужо здавалася мне, што чую, як гэты мацярык, які называем сталым, узнімаецца, і я стаю, як на нёмнавым плыце».

Дзеля вобразнасьці мовы свайго аповеду Ігнат Дамейка выкарыстоўваў фразэалягізмы, выслоўі, добра вядомыя як літаратурнай, так і гутарковай беларускай мове: «заходзіліся ад сьмеху», «сабаку за дзьверы не выганіш», «як аб сцяну гарохам», «падалі як мухі», «хоць вочы выкалі», «ён у ногі» (г. зн. кінуўся бегчы), «шарая гадзіна» (г. зн. пара, калі цямнее), «першылепшы». Знаходзім у Дамейкавых успамінах і беларускія прыказкі: «Пана Бога хвалі, але й чорта не абражай», «на чым возе едзеш, таму й песеньку сьпявай». Але самае цікавае выслоўе - «зьнікае, як цукар у крынічнай вадзе». А прывабвае асаблівую ўвагу таму, што падобнае чытаем і ў паэме «Новая зямля» Якуба Коласа:

*Як пойдзе ён у лес той зраньня,*
*Як цукар у вадзе растане...*

Маркую, што ў «Дзённіках...» Ігната Дамейкі, асабліва ў ягоным рукапісе, нашыя моваазнаўцы, лексыколягі могуць знайсьці шмат словаў, якія, безумоўна, належаць «крывіцкай гаворцы, дасканала распрацаванай». З шэрагу беларусізмаў *адрына, аер, бабка* (страказа), *барэлка* (бочачка), *батлейка, брага, бухаць, валяр'ян, венікі, веньцер, Вербная нядзеля, вывараці, выцьвічыць* (у слоўніку І. Насовіча „адлупцаваць розгамі"), *гарбузы, гасьцінец* (дарога), *Грамніцы, драбіны* (лесьвіца), *зразу, кавуны, каганец* (гэтым словам Дамейка называе марскі маяк; у польскім выданьні яно тлумачыцца як „марская лятарня"), *калы, катухі, крыніца, куцьця, падваротнік* (сабака), *пасека* (як і ў Якуба Коласа: «Былі там пасекі. Штогоду тут... Дзялянкі лесу карчавалі», бо ў польскай мове пасека „пчальнік"), *пліта* (пляскаты кавалак каменя, скалы), *пячэня* (у І. Насовіча „пражанае мяса"), *рапуха, скавытаць* (енчыць), *сталяваньне* (у І. Насовіча „столь"; у польскім выданні гэтае слова тлумачыцца „столь з дошак") *ражон, сыр* (замест польскага «ser»), *сумёты, умаяваны, хіжая, хіжасьць* («плынь ракі нязмерна хіжая»; «паветра ня кружыцца вакол зямной восі з такой жа самай хіжасьцю»), *худоба* (хатняя жывёла), *цапы*. Як бачым, некаторыя Дамейкавы беларусізмы падаюцца толькі ў слоўніку І. Насовіча.

Што да слова *хіжасць*, то Дамейка выкарыстоўвае яго ў значэнні „хуткасьць". А, прыкладам, «Слоўнік беларускай мовы» падае толькі словы *хіжа, хіжак, хіжы* з паметай «абл.». І. Насовіч-жа, наадварот, падае слова *хіжы* з варыянтамі, як шырока распаўсюджанае з прыкладамі - прымаўкамі (ды радком зь песні), з якіх «У Нясьвіжы людзі хіжы: салому таўкуць, бліны пякуць; сена смажаць, бліны мажуць» падаецца найбольш цікавай, бо паходзіць, відаць, з блізкага да Медзьвядкі рэгіёну. Дарэчы, слова хіжы бачым і ў вершаванай казцы «Разумная дачка» У. Дубоўкі, які паходзіў зь Вілейшчыны.

Варта звярнуць увагу на слова *ўмаяваны*, якое Дамейка выкарыстаў некалькі разоў дзеля вобразнага апісаньня палеткаў ды скалаў, якія парaслі густой зелянінай. Польскія слоўнікі падаюць гэтае слова, а ў нашых яго няма. Але можна меркаваць, што падобная лексэма вядомая беларусам, бо паўсюдна ў нас на Сёмуху ставяць «май». Вось толькі значэньне словаў *забармашыста, забармашысты* пакуль застаецца невядомым. Мо хто-небудзь з чытачоў ведае, дык, калі ласка, патлумачце. А раптам выявіцца: гэтае слоўца - яшчэ адзін доказ, што медзьвядзкі шляхціч не забыўся роднай мовы.

Стылістыка Дамейкавых «Дзённікаў...» таксама вартая асобнага дасьледаваньня ці хаця-б артыкулу.

# НАТАТКІ З ПАДПОЛЬЛЯ

## 1. Грошыкі ня сьмецьце – навошта іх пускаць на вецер?

Адзін чалавек, калі ў яго няма ці мала грошай, імкнецца заробіць іх, другі — лезе ў кішэню таго, хто іх мае. Менавіта так робіць і беларуская дзяржава. Апошнім часам яна бяз сораму чысьціць кішэні й кашалькі сваіх грамадзянаў, а каб неяк апраўдацца — прыкрываецца законам. А „закон, як дышла — як павернеш, так і выйшла".

Ужо колькі гадоў, як беларускія аўтаўласьнікі плацяць абавязковыя страхоўкі. Плацяць, бо ўпэўненыя, што ў выпадку аварыі ці няшчасьця на дарозе дзяржава дапаможа. Аднак спадзяваньні гэтыя дарэмныя.

У глыбачаніна Пятра аўтамабіль быў застрахаваны. Таго дня ён, як заўсёды, пакінуў яго каля плоту ды займаўся хатнімі справамі. Калі зноў выйшаў да машыны, убачыў, што яна пабітая. Забедаваў, аднак успомніў, што машына застрахаваная, крыху супакоіўся. Назаўтра адранку ён быў ужо ў страхавой кампаніі. Адказ страхавога агента нагадаў яму тэлевізійную рэкляму „Шок — гэта па нашаму!" Ветліва ўсьміхнуўшыся Пятру, спадарыня Дзяржава адказала: „Калі міліцыя знойдзе таго, хто пашкодзіў твой аўтамабіль, я вылічу суму на рамонт твайго аўтамабіля зь ягонай страхоўкі". Пятро йшоў дадому, хістючыся, як п'яны, а ў галаве, што дзяцел, дзяўбло: „Каму-ж я й навошта штогод плаціў 30 тыс. „зайчыкаў"? Во дурыла, дык дурыла!"

Пятро доўга яшчэ ня мог супакоіцца й абіваў парогі розных інстанцыяў, аднак, у рэшце рэшт, сваім коштам адрамантаваў аўтамабіль. Цяпер ён упэўнены, што грошы зь ягонай страхоўкі йшлі не на пакрыцьцё ягоных стратаў, а некаму на заробкі, пэнсіі, прэміі... Болей Пятро спн. Дзяржаву такім чынам не „страхуе". Езьдзіць і рызыкуе, што за незастрахаваны аўтамабіль давядзецца плаціць штраф міліцыі (страхаваньне-ж справа абавязковая). Затое перакананы: жыць у Беларусі без рызыкі проста немагчыма!

## 2. Пад амбасадай мы культуру й пакажам!

Сыпяшаюцца беларусы, хто куды: адзін — на дзяржаўную працу, другі — на ўласныя соткі за горадам, трэці — на рынак гандляваць, чацьверты, шосты, дзясяты — у чаргу да замежнай амбасады. Спн. Дзяржава зранку да вечара ўся ў клопатах. Тыя, хто на дзяржаўных пасадах, турбуюцца, каб хоць заробак у свойчас выплацілі. Тыя, хто днюе й начуе на сотках, мае клопат, каб нешта на іх вырасла. Хто на рынках гандлюе, пакупнікоў чакае, усе вочы прагледзеў... Ну а той, хто ў чарзе каля замежнай амбасады таўчэцца, думае: „Няўжо й там жывуць, як і мы?" Думае так і пацыху пхнецца наперад, бо ў яго свой клопат: сёньня штамп на анкету дастаць, праз тыдзень дакументы здаць і візу аплаціць, яшчэ праз тыдзень забраць усё гэта... А людзей каля амбасадаў процьма! Разоў у пяць больш чым на дзяржаўнай працы, сотках і рынках. Калі ўявіць, што ўсе яны выедуць зь Беларусі ў адзін дзень, дык са спн. Дзяржавай застанецца толькі адзін чалавек, якому шлях не ў замежжа, а ў калгасы ды саўгасы.

У сьпёку й сьцюжу марнуюцца пад амбасадамі беларускія грамадзяне. Бывалыя распавядаюць, як чыста ў Нямеччыне, якая прыгажосьць у Галандыі... Расказваюць, грызуць семкі ды плююць сабе пад ногі шалупінкамі... Толькі пад вечар пусьцее каля амбасадаў. Месца, дзе стаялі тыя, хто прагне чысьціні й культуры замежнай цывілізацыі, нагадвае непрыбраны сьвінарнік: гідка й непрыемна. Думаецца, ці не прынясуць мае суграмадзяне сваю „культуру" туды, куды едуць? Можа перад тым, як сьпяшацца да амбасадаў, яны павінныя адшліфаваць сваю ўласную цывілізацыю на дзяржаўнай працы, на сотках і на рынках? Беларусь у сьвеце й так ведаюць ня зь лепшага боку, а калі мы яшчэ пакажам там і сваю сярмяжную культуры, што тады будзе?

## 3. Ня маеш грошы й блату – без нагі трапіш у салдаты!

Як толькі пачынаецца прызыў у армію, прэзыдэнт крычыць, што, у адпаведнасьці з законам, у войска прызываюцца толькі фізычна здаровыя навабранцы. А што ў сапраўднасьці? У майго сына дактары прызналі хваробу ад нараджэньня, хваробу сур'ёзную — не палец парэзаны. І што вы думаеце? Тэрапэўтка раённай палiклінікі, яна-ж чалец мэдкамісіі райваенкамата, заносіць у картку майго сына ягоную хваробу й напрыканцы дае заключэньне — „здаровы", „годны". Сьмех, дый годзе! Я ў Міністэрства Абароны за тлумачэньнем.

— Хворых берыцё, — пытаюся.

— Не бярэм. Нават адумысловы Загад ёсьць № 369\173 ад 12.1989 г., — адказвае спн.

Дзяржава.

— І што, там напісана, што хворых у войска не бяруць?

— Не, ня так.

— А як-жа, цікава?

— Там дадзены пералік хваробаў, зь якімі ў войска прызываць можна.

Вось табе й прыехалі.

— Вы-ж самі сабе супярэчыце, — кажу, — у тым пераліку на 5 аркушах дробным шрыфтам пералічаныя амаль усе хваробы ў сьвеце. І што, зь імі можна служыць? Напрыклад, салдату-сардэчніку, ці з хворымі ныркамі?

У адказ нямая, як у „Рэвізоры", сцэна. Нарэшце спн. Дзяржава кажа:

— Калі ты нязгодная з заключэньнем мэдкамісіі, падавай у суд!

Памаракавала я й вырашыла, падаваць у суд трэба не на мэдыкаў, а на Міністэрства Абароны, якое выдала гэткі бязглузды загад. А фактычна — на спн Дзяржаву. Гэта ёй патрэбныя хворыя: калі не ў войску служыць, дык ураджай убіраць. Гэта яна сваім загадам гатовая за паўтары гады службы зрабіць з хворага навабранца калеку ды аддаць бацькам, пакінуўшы без усялякае дапамогі.

Штопраўды, ні самыя прызыўнікі, ні іхныя бацькі за свае правы ў нас не змагаюцца. Каб змагаліся, вышэйпамянёнага загаду Міністэрства Абароны РБ ужо не было-б. Але нашая пасыўнасьць творыць зло й грэх.

Ёсьць і яшчэ адзін „падарунак" нашым навабранцам ды іхным бацькам. Ня так даўна быў прыйняты Закон аб арміі, прапанаваны Саветам Міністраў РБ. У праекце закона пункт пяты даваў права прэзыдэнту пасылаць беларускіх ваеннаслужачых у мейсцы баявых дзеяньняў за мяжу (чытай — у Чэчэнію). Гэта выяўна супярэчыла Канстытуцыі РБ і пасьля доўгіх дэбатаў і баталіяў пункт пяты Закону быў зьменены. Якім-жа чынам? Аказваецца, ваеннаслужачыя будуць пасылацца ў мейсцы баявых дзеяньняў на падставе іхнай пісьмовай згоды. Ня ведаю, хто паверыць у тое, што малады беларускі салдат мае прва думаць, вырашаць і мець права голасу ў арміі? Яму-ж пастаянна кажуць: „Ты ня маеш права думаць, вырашаць, за цябе думае старэйшы званьнем!"

Я змалку жыву ў Беларусі й, як маці двух сыноў, з упэўненасьцю кажу: у беларускую армію бяруць хворых, бо здаровыя адкупляюцца. Беларускія хлопцы будуць ваяваць за межамі краіны, толькі не дабраахвотна, а пад прымусам, і толькі сыны простага беларускага люду, а ня той эліты, якая прымае крывавыя й бязьлітасныя законы!

## 4. У Беларусі няма яшчэ падаткаў толькі на паветра й дождж

Памятаеце казку італьянца Джаньні Радары „Чыпаліна"? Там сеньёр Памідор, які ўладарыў на агародзе, надта любіў браць з падуладных падаткі. Дадумаўся да таго, што ўвёў падаткі на паветра, на дождж, на дождж з маланкай і громам, на град. Думаю што ад сеньёра Памідора не адстае й нашая спн. Дзяржава. Новы Дэкрэт № 18 „Аб некаторых пытаннях сацыяльнай абароны грамадзян" запатрабаваў, каб зь 1 жніўня 2002 г. усе прадпрыймальнікі штомесяц плацілі ў фонд сацыяльнай абароны абавязковую страхоўку ў памеры 36% ад пражытачнага мінімуму, а гэта складае 30 тыс. „зайчыкаў". Прычым, нікога не цікавіць, ці ты ўжо нідзе не працуеш, ці толькі распачаў сваю прадпрымальніцкую дзейнасьць, ці толькі зарэгістраваў сваё прадпрыемства. Апроч таго, калі ты, нягледзячы на ўсе дэкрэты, змог-такі атрымаць прыбытак, дык і ад яго ў фонд сацыяльнай абароны трэба адлічыць яшчэ 15%. Адным словам, толькі я распачала сваю справу, як аказалася, што я ўжо вінная спн. Дзяржаве 30 тыс.! Ня веру, што гэтыя адлічэньні дапамогуць мне мець добрую пэнсію ў старасьці. Пры такіх парадках, як у нас, да пэнсіі многія не дажывуць, а калі й дажывуць, дык з сваіх выплатаў атрымаюць „дулю", бо грошыкі, якія нібыта пойдуць нам на пэнсію, ідуць на цяперашнія выплаты. Падобная „абдзіралаўка" ёсьць чарговая магчымасьць пакрыць дзіравы бюджэт спн. Дзяржавы.

*Працяг будзе*

**Правінцыялка**

## "Тыдзень з Магілёўскай вобласьцю"

■ За 10 месяцаў 2002 г. у вёсках Магілёўскай вобл. на аднаго народжанага прыпала ў сярэднім 3,3 памерлых. Нараджальнасьць вырасла на 4,3 %, затое сьмяротнасьць павялічылася на 10 %. Гэта выклікае выміраньне цэлых вёсак. Так, у 1922 г. у вобласьці іх налічвалася 3303, а цяпер засталося 3143, прычым у 72-х не пражывае ніводнага жыхара, а ў 1044-х сяроД вяскоўцаў няма ніводнага дзіцяці. Ускрай нэгатыўна ўплывае на дэмаграфічную сытуацыю ў вобласьці дэградацыя інстытута сям'і. Напрыклад, у Магілёскім раёне на 100 шлюбаў прыпадае 97 разводаў.

***"Зямля і людзі"***

■ Паводле дадзеных аддзелу ЗАГСу г. Горкі, летась у раёне зарэгістравана 337 шлюбаў. Дзяцей нарадзілася – 418, памёрла – 773. Для параўнання , у 2001 г. гэтыя лічбы выглядалі так: 317 шлюбаў, 394 народжаных, 718 памерлых. Штогод раён страчвае больш за 300 жыхароў – насельніцтва шматпавярховага дому альбо даволі вялікай вёскі.

■ Фактычна кожны шосты жыхар Бялыніцкага раёну летась прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. На тэрыторыі Бялынічыны было ўчынена 3955 правапарушэньняў, на 1003 больш, чым у 2001 г. У лідарах – неабыякавыя да сьпіртнога людзі. За ўжываньне алкаголных напояў ў грамадзкіх месцах прыцягваліся да адказнасці 1447 чал., за дробнае хуліганства й крадзеж, адпаведна, 908 і 202 жыхары раёну. Міліцыяй было сканфіскавана 41 адзінка (за 2001 г. – 25) агнястрэльнай зброі, што захоўвалася з парушэньнямі заканадаўства. Што да злачынстваў, дык па лініі ўсіх службаў РАУС іх было ўчынена летась 515 (2001 г. – 426). Зь іх 71,3 % раскрытыя. Нераскрытыя застаюцца 145 з 245 крадзяжоў асабістай маёмасьці грамадзянаў, 96 злачынстваў, якія кваліфікаваныя як менш цяжкія, і 49 – цяжкіх.

■ 1 студзеня ў Горках, у памешканьні былога мэдвыцьвярэзьніка пачаў дзейнічаць дом начнога прабываньня – "начлежка". Яе адкрыцьця чакалі даўно: на тэрыторыі Горацкага раёну знаходзяцца 3 папраўчыя калёніі, і многім былым асуджаным проста няма куды йсьці. Установа разьлічанае на 15 ложкаў-месцаў. Дом працуе з 20.00 вечара да 8.00 раніцы, жыльцы могуць ня толькі пераначаваць у цяпле, але й прыняць душ, пераапрануцца ў чыстую бялізну, выпіць гарбаты. Гэта першая спроба адкрыцьця падобнай установы ў раёне.

■ Пастановай Магілёўскага аблвыканкама побач зь вёскай Шчаткава (Бабруйскі раён) вызначанае месца для арганізацыі зборных могілак, на якіх будуць пахаваныя астанкі нямецкіх жаўнераў, што загінулі падчас Другой сусветнаў вайны на тэрыторыі вобласьці. Варта адзначыць, што нямецкія могілкі ў Бабруйску ўжо існавалі. Але ў 1945 годзе пахаваньні ў раёне цяперашняга сквэру ля тэатру былі знішчаныя.

■ Архімадрыт Кірыл, настаяцель Сьвята-Троіцкага храму г. п. Хоцімска зрабіўся адным з уладальнікаў прэміі "За духовае адраджэньне" за 2002 г. Айцец Кірыл больш 45 гадоў узначальваў прыход, быў ініцыятарам, непасрэдным кіраўніком і ўдзельнікам узнаўленьня сабору ў Хоцімску, зьбіраў ахвяраваньні, ладзячы дабрачынныя мерапрыемствы, аддаючы ўласную зарплату, а затым і пэнсію. Самаахвярнасьць а. Кірыла ператварыла Сьвята-Троіцкі храм у духовы й культурны цэнтар ня толькі Хоцімска, але й памежных раёнаў Расейскай Фэдэрацыі.

***«Шлях Кастрычніка»***

■ Прадстаўнікі бабруйскай гарадской арганізацыі БНФ і мясцовага прафсаюзу прыватных прадпрымальнікаў наведалі ў Жлобіне журналіста газэты "Пагоня" Паўла Мажэйку. Госьці прывезьлі прадукты, кнігі, крыху грошай. Бабруйскія фронтаўцы ды прадпрымальнікі наведалі таксама калегу Паўла – Міколу Маркевіча, які адбывае пакараньне ў Асіповічах.

■ На рынку аўдыёкасетаў у Чавускім раёне зьявіўся альбом "Вечеринка" фірмы «Вигма» з сэрыі «Пляски по-русски». Апроч песен вядомых расейскіх сьпевакоў у альбом увайшлі тры песьні магілёўскага кампазытара Н. Яцкова на вершы дырэктара Чавускага раённага гісторыка-краязнаўчага музею Пятра Сырадоева.

***«Іскра»***

## Выпадкова зазірнуў

у кнігу другую шостага тому "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" – на артыкул "Русь", напісаны гісторыкам Вячаславам Насевічам. Дужа спадабалася. Насевіч заўсёды пісаў цудоўна і, лічу, дакладна. Шмат цікавіўся гэтай тэмай і шмат сустракаўся са спэкуляцыямі на гэты конт. А тут усё, як кажуць, "раскладзена на палічках". Калі ўважліва падумаць, дык абгрунтаваньне беларускай нацыянальнай ідэі паўстае якраз вакол пытаньня: хто мы? Значная частка беларусаў добра ўсьведамляе, што старэнькае адзінага ўсходнеславянскага этнасу было перапынена ў 13 ст. і гэта ўжо назаўсёды. Другая-ж частка спадзяецца, што праўда за тымі навукоўцамі (гісторыкамі, этнографамі, анрапалягамі й інш.), што цьвердзілі й цьвердзяць пра "адзіны рускі народ" зь ягонымі адгалінаваньнямі. І гэтыя гістарычныя арэлі – хто каго, хто мае рацыю? – гайдаюцца ўжо некалькі стагодзьдзяў. Так, мы, беларусы, сапраўды закалыханыя. І колькі нам яшчэ так наканавана гойдацца, вядома аднаму Богу.

**Пятро Амбрасовіч**
*Санкт-Пецярбург*

## Прыкра й зь недаверам

было чытаць у "Голасе Радзімы" за 12 чэрвеня пра "ўвядзеньне новай грашовай адзінкі". Гэты плян сумеснага дзеяньня ўраду Расейскай Фэдэрацыі, Цэнтрабанку, ураду Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага банку, які прадугледжвае ўвядзеньне расейскага рубля ў Беларусі. 4 чэрвеня прэм'ер-міністры Расеі й Беларусі, М. Касьянаў і Г. Навіцкі, падпісалі адпаведны дагавор на 2001-2005 гг. Паводле словаў Касьянава, гэты дагавор дасьць Расеі й Беларусі вялікі плён: адзіныя ўмовы эканамічнай і бюджэтнай палітыкі, адзіную мытную прастору, адзіны прынцып падаткаваньня, адзіную цэнавую палітыку й адзіныя ўмовы гаспадараньня. Аднак, калі на цьвяроза з гэтым дагаворам разабрацца, дык ён кладзе пачатак ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці,ператварае суверэнную Беларусь у паслухмяную марыянэтку Расейскай Фэдэрацыі. Масква поўнасьцю будзе кантраляваць беларускую эканоміку, мытную прастору, ня будзе плаціць за транспартыроўку сваіх тавараў цераз тэрыторыю Беларусі на Захад і з Захаду. У саюзным парляманьце бальшыню будуць складаць расейцы, таму й зьнешняя палітыка Беларусі таксама будзе кіравацца з Масквы. Усе гэта паказвае, што Масква хоча анэксаваць сувэрэннаю Рэспубліку Беларусь, ператварыць яе ў сваю калёнію. Дзяржавы, якія сёньня маюць дыпляматычныя зносіны зь Беларусьсю, могуць у будучыні адазваць сваіх дыпляматаў зь Беларусі, як зь несамастойнай краіны. Пакуль ня позна, беларускі народ павінен адкінуць гэты дагавор паміж маскоўскімі імпэрыялістамі й іхнімі менскімі халуямі, і тым самым абараніць свой гонар і гонар сваёй Бацькаўшчыны!

**Сыльвэстар Будкевіч,** *Англія*

## Ад нядаўняй паездкі ў Вільню

асабліва запомніўся шпацыр каля Сьв. Ганны ды маленькі канец імшы ў сярэдзіне гэтай цудоўнай сьвятыні, якую склеілі нашыя продкі-беларусы: здольныя архітэктары, мастакі, простыя муляры. Летувісы могуць быць гордымі й хваліцца перад усімі чужынцамі й турыстамі, што маюць такую перлу будаўлянага мастацтва, але, напэўна, ня часта каму гавораць, што яе збудавалі беларусы...

Гэта быў мой другі праезд праз Вільню, а першым разам я быў тут у 1944 г. Пасьля была Нямеччына, Італія. У 1948 г. я пераехаў у Францыю, у Парыж. Успамінаю, як мы нашай маленькай прысутнасьцю (і выгнанцы, і эмігранты, і іншыя) сьвяткавалі тут угодкі нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Тады ў маёй маладой галаве вобраз барацьбы за незалежнасьць Бацькаўшчыны, якую падняў 25-гадовы Кастусь, быў яшчэ далёкім, мітычным. Цяпер перад мною вобраз гэты выразны, яскравы, бо сам я, пражыўшы многія гады за мяжамі Бацькаўшчыны, шмат больш ведаю, што азначае змаганьне ўсіх паняволеных народаў за незалежнасьць і шчасьце свайго краю.

Успамінаю свайго сябра Янку Філістовіча, зь якім жыў разам некалькі гадоў у Парыжы. Ён таксама быў постацьцю, у якой, на шмат раней, чым у іншых, яскрава адлюстраваўся вобраз змаганьня за незалежнасьць Радзімы. У 1951 г. ён вярнуўся ў Беларусь, каб арганізаваць там паўстаньне супраць крывавага Сталіна, ды патрапіў у драпежныя кіпцюры НКУС і ў сакавіку 1953 г., якраз у дзень сьмерці дыктатара, быў расстраляны. Не было тады Янку яшчэ й 28-мі.

Калі гляджу сёньня на тое, што дзеецца ў Беларусі, супакойваю сябе тым, што й тут, у Францыі, сацыялісты страцілі поўную ўладу, якой так моцна хваліліся больш як 20 гадоў. Я спадзяюся й веру, што і ў нас на Бацькаўшчыне перамены да лепшага адбудуцца вельмі хутка, і ўсе будуць пытацца: а што, уласна, сталася? На маю думку, пагадненьне Пуціна (я называю яго Распуціным) з Садамам Хусэйнам пра эканамічнае супрацоўніцтва Расеі зь Іракам у той момант, калі Амэрыка ўжо падрыхтоўвае свае войскі, каб зьнішчыць уладу іракскага дыктатара, ёсьць вельмі небясьпечная... Так можа й Трэцяя сусьветная вайна распачацца.

**Міхась Навумовіч,** *Францыя*

## Пакуль усё йдзе нармальна!

"11 верасьня" - апошні званок чалавецтву! Яно - у цалкавітым тупіку! Толькі давайце ня будзем казаць, што яны (тэрарысты й іхныя памагатыя) гэта "зьверы ў чалавечым абліччы", а мы сьвецімся ад сьвятасьці. "11 верасьня" адбылося ў тым самым сьвеце, каторы мы самі стварылі, і ўсім вядома, якую вялікую ролю ў станаўленьні сучаснага сьвету сыгралі Злучаныя Штаты. Правільна сказаў прэзыдэнт Буш: "Не эпоха указвае нам! Наша краіна сама вызначае эпоху!" ("Зварот да нацыі", 20 верасьня 2002 г.). Вось і вызначылі. Паводле вядомай прыказкі: "За что боролись, на то и напоролись".

Што-ж гэта за "эпоха", якая прывяла чалавецтва да апошняе мяжы, за якою ўжо крывіць сваю жахлівую грымасу паўнамаштабная ядзерная вайна? Дэтэізацыя заходняй сьвядомасьці, культ навукова-тэхнічнага прагрэсу, спадзяваньне на тое, што ягоныя здабыткі зробяць людзей шчасьлівымі... І ўсё большае аддаленьне чалавека ад Бога... Выкарыстаньне навукова-тэхнічных дасягненьняў у антыгуманных мэтах. (Чаго вартыя адныя Хірасіма й Нагасакі?) Дыктат магутных у ваеных адносінах (за кошт высокіх тэхналёгіяў) дзяржаваў...

Амэрыканцы почасту задаюцца пытаньнем, пытаюцца ў сябе, за што іх ня любяць?

Нядаўна на гэтае пытаньне адказаў мэр Хірасімы Тадатосі Акіба. Ён абвінаваціў ЗША ў спробах навязаць плянэце "права моцнага" й "сьвет па-амэрыканску". Мэр лічыць, што Вшынгтон "ня мае права вырашаць лёс плянэты за іншых". А пасьля "11 верасьня" ў сьвеце наогул пачала "дамінаваць дэструктыўная філязофія помсты, якая зводзіцца да заяваў: "Я мацней за ўсіх!" і "Калі спатрэбіцца, я вам пакажу!" Куды ўсё гэта прывядзе?" (NTV.ru, 6 жніўня 2002 г.).

У вайне, абвешчанай ананімнаму сусьветнаму тэрарыстычнаму падпольлю (а з боку тэрарыстаў гэта партызанская, а таму - бесперапынная вайна), Амэрыка нагадвае таго хлопца, які падаў з 29 паверху й казаў сабе: "Пакуль усё йдзе нармальна!" - з той толькі розьніцаю, што ЗША могуць пацягнуць за сабою ўвесь сьвет.

Патрэбнае прынцыпова новае палітычнае думаньне. Амэрыка, як наймацнейшая краіна, нясе вялікую адказнасьць за выжываньне чалавецтва. Замест таго, каб быць "страшыдлам" для палавіны сьвету, яна павінная паказаць прыклад іншым народам і першай пачаць ахвяраваць сваімі нацыянальнымі інтарэсамі ў імя выжываньня віду.

Памятаеце, якое пачуцьце ахапіла амэрыканскіх касманаўтаў на Месяцы? Што ўсе людзі - браты! Пранікнуцца цяпер гэтым - самае галоўнае! Больш галоўнага цяпер у чалавецтва нічога няма!

**Уладзімір Крылоўскі,** *Нью-Ёрк*

## Пераглядаючы газэту

(РУНЬ № 48), застанавіўся на артыкуле сп. Весялкоўскага "Халодная вайна". Напаткаў там імя Людовіка Зарэчнага-Галубовіча. (Ня ведаю, ці гэта апіска рэдакцыі, ці так было пададзена - трэба чытаць Людвік). Згадваецца, што ён быў менскім энкавэдыстам. Аднак перад тым, як ім стаць, Зарэчны-Галубовіч, яшчэ хлапчуком, працаваў ва Ўрадавым будынку паштальёнам сярод адздзелаў Ураду. Гэта дазволіла яму ведаць усіх урадоўцаў і шмат што пра іхнюю працу. Трэба думаць, што якраз ягоная работа дала яму магчымасьць ведаць сяброў або самому стаць сябрам Беларускага Вызвольнага Руху (БВР). БВР быў заложаны ў Менску ў 1931 г. Як работнік НКУС Зарэчны-Галубовіч мог даведацца з допытаў арыштаваных сяброў арганізацыі пра ейнае існаваньне, аднак ня можна прыпушчаць, што ён, будучы работнікам пры ўрадзе й ведаючы пра дзейнасьць БВР, выдаў чальцоў арганізацыі, пасьля чаго пачаліся арышты, расстрэлы й самагубствы. Калі-б ён такое зрабіў, дык яго самога неўзабаве расстралялі-б, - такая тады была стандартная практыка НКУС. Выглядае так, што знаходзячыся ў радох НКУС, Людвік Галубовіч-Зарэчны працаваў на карысьць БВР.

Дакладна ня ведаю, у каторым годзе была створаны (адноўлены) БВР у горадзе Манчэстары. Адзін з прысутных на зьезьдзе ведаў пра БВР з 30-х гг. і па заканчэньні зьезду напісаў да Зарэчнага-Галубовіча ліст, чаму гаворка йшла не пра аднаўленьне дзейнасьці БВР, а пра ягонае стварэньне? Зарэчны слушна адказаў, што "яшчэ ня час гаварыць аб гэтым, бо-ж, можа быць, што ёсьць жывыя сябры БВР, жывуць і дзейнічаюць у Савецкім Саюзе". Безумоўна, так і было - каб разлажыць і пазбыцца камуністычнай дыктатуры, яшчэ жылі й дзейнічалі ў ССР сябры БВР.

Што да засланьня ў Савецкі Саюз дывэрсантаў (з дапамогаю ангельцаў і амэрыканцаў), дык усе яны, сапраўды, трапілі проста ў рукі энкавэдыстаў. Аднак тыя разьведчыкі, што былі пасланыя Зарэчным (з дапамогай немцаў і пра якіх ангельцы з амэрыканцамі ня ведалі), дык усе яны вярнуліся назад з дакладам, што ў СССР цяпер няма магчымасьці для дывэрсійнай работы і што такая работа не прынясе карысьці, а толькі прывядзе да людзкіх стратаў. Засылаць дыверсантаў у пасьляваенны час было вельмі цяжка - нават у шэрагах БВР было шмат савецкіх агентаў, каторыя імкнуліся апраўдаць сябе перад камунізмам за свае подлыя ўчынкі падчас нямецкай акупацыі.

Далучаю "Маніфэст Беларускага Вызвольнага Руху", каторы быў апрацаваны Галоўнай Управай БВР і асабіста Людвікам Галубовічам Зарэчным.

**Булат,** *Англія*

## Зусім выпадкова

мне ў рукі трапіла газэта "Рунь". Зблольшага матар'ялы, ў ёй зьмешчаныя, мне падабаліся. Адчуваецца, што газэта выходзіць на "вольным Захадзе", можа свабодна гаварыць аб тым, пра што ў нас у Беларусі пісаць й гаварыць забаронена. Вельмі добра таксама, што "Рунь" выдаецца недалёка ад Беларусі, у Вільні, і ейныя аўтары й супрацоўнікі непасрэдна назіраюць і праўдзіва пішуць пра працэсы, якія сёньня адбываюцца ў нас. Нам-жа, жыхарам Беларусі, у свой чарод, вельмі цікава даведацца, што робіцца ў суседняй Літве, якая цяпер імкнецца, у адрозьненьні ад нашай краіны, уступіць у Эўрапэйскі Саюз. Як мне здалося, матар'ялы пра Літву ў газэце пададзеныя аб'ектыўна, без прыхарошваньняў, што вельмі важна для Беларусі, бо калі яна раптам паверне на дэмакратычны шлях, дык зможа выкарыстаць вопыт Літвы, не паўтараць ейных памылак. (Праўды, чым далей, тым меней верыцца, што Беларусь калі-небудзь на такі шлях паверне).

Я жыхар Усходняй Беларусі, вясковы настаўнік. Да пачатку "перабудовы" быў звычайным "савецкім чалавекам", аднак так склалася, што неяк незаўважна пранікся незалежніцкімі ідэямі, зрабіўся нацыячнальна сьвядомым. Такім сустрэў і новае Трэцяе тысячагодзьдзе. Ды апошнім часам мяне пачалі трывожыць сумныя развагі й пытаньні, адказу на якія не знаходжу.

Ніяк не магу зразумець, як цяпер міжнародная супольнасьць будзе адрозьніваць "нацыянальна-вызвольную барацьбу" народаў ад "праяваў міжнароднага тэрарызму"? Як, напрыклад, ставіцца (пасьля нядаўніх падзеяў з захопам закладнікаў у Маскве) да ўзброеннай барацьбы чэчэнскага народу за незалежнасьць? Гэта што – суцэльны міжнародны тэрарызм? Чым ад тэрарызму адрозьніваецца партызанская вайна? Чаму злачынныя дзеяньні магутнай арміі й спэцслужбаў Расеі супраць мірнага насельніцтва ў Чэчэніі не падпадаюць пад катэгорыю "тэрарызм"?

Мне здаецца, што міжнародная супольнасьць павінная сёньня як мага хутчэй выпрацаваць паняцьце, што-ж такое ёсьць "міжнародны тэрарызм". Напрыклад, акрэсьліць, што тэрарызм гэта, калі забіваюць без суда й сьледзтва або бяруць у закладнікі ні ў чым непавінных людзей – прычым ня важна, ці гэтыя забойствы зьдзейсьненыя баевікамі (падрыў жылых дамоў), ці кадравымі вайскоўцамі ("зачысткі"). Зразумела, трэба паставіць знак роўнасьці й паміж крыніцамі фінансаваньня тэрарызму, незалежна ад таго, ці ён (тэрарызм) фінансуецца зь міжнародных тэрарыстычных цэнтраў, ці зь бюджэту краіны, якая праводзіць "зачысткі", зьнішчаючы людзей паводле іхнай нацыянальнай, рэлігійнай або іншай прыналежнасьці.

Калі ня вызначыць, што такое тэрарызм, дык кожнае несанкцыянаванае ўладамі народнае выступленьне (асабліва ўзброенае) можна трактаваць як тэрарыстычны акт. А мы-ж на ўласнай скуры ведаем, што там, дзе пануе дыктатура, дзе яна практычна ўсё і ўсіх трымае пад каўпаком, – там апазыцыя шляхам дэмакратычных выбараў адабраць уладу ў дыктатара часам ня можа нават тады, калі яе (апазыцыю) падтрымлівае пераважная большасьць насельніцтва. Выходзіць, што сёньня кожны дыктатар можа знайсьці спосаб абвесьціць прадстаўнікоў апазыцыі ў сваёй краіне тэрарыстамі й безпакарана зьнішчыць іх?

Цікава таксама, што думаюць чытачы й аўтары "Руні" пра цяперашнія паводзіны ў сьвеце Амерыкі й Расеі? Можа тут дзейнічае адно толькі "права мацнейшага", змаганьне за ўплыў у сьвеце, за рынкі збыту, за нафту? Можа мы маем справу зь імпэрскімі амбіцыямі, а не са змаганьнем за сьветлае дэмакратычнае будучае Зямлі? Чаму, напрыклад, Амэрыка гатовая абвесьціць вайну Іраку, дзе нібыта ёсьць зброя масавага зьнішчэньня, а не камуністычнаму Кітаю, таксама мусульманскаму Пакістану, Індыі, дзе, дакладна вядома, такая зброя маецца? Атрымліваецца, бі таго, хто слабейшы?

Хацелася-б пачуць меркаваньне й наконт таго, ці можна з дапамогай сучаснай зброі, тэхналёгіі, прапаганды ды іншых дасягненьняў цывілізацыі справіцца з старым, як сьвет, нацыяналізмам? Чаму дагэтуль нацыянальнае пытаньне ня могуць вырашыць нават у такіх звышцывілізаваных краінах, як Вялікабрытанія (ірладцы), Іспанія (баскі), Канада (французы)?

Непакоіць і той факт, што расейскія спэцслужбы выкарысталі супраць тэрарыстаў, а заразам і супраць заложнікаў, нэрвова-параліктычны газ. Калі ўлічыць, што тэрарысты-"адмарозкі" гэта таксама грамадзяне Расеі, дык выходзіць, што расейскі ўрад выкарыстаў супраць свайго народу хімічную зброю (як некалі Хусэйн патруціў курдаў). Цікава, як гэта будзе ацэненае ў дэмакратычным сьвеце, дзе столькі гаварылася й гаворыцца пра забарону хімічнай зброі? Выходзіць, што цяпер у "асаблівых выпадках" (напрыклад, супраць тэрарыстаў) хімічную зброю можна ўжываць? (Штопраўды, расейскія ўлады кажуць, што яны выкарысталі газ, які пад акрэсьленьне "хімічная зброя" не падпадае – аднак таямніцы ягонага складу не раскрываюць).

Вельмі ўдала, на мой погляд, расейскія ўлады пад выглядам барацьбы з тэрарызмам умацоўваюць паліцыйную сыстэму ў краіне й праводзяць чарговы наступ на расейскія СМІ і свабоду слова. Што вы думаеце наконт гэтага?

Вось такія мае пытаньні, адказы на якія хацелася-б пачуць. Што да майго будзённага настаўніцкага жыцьця, дык пасьля нядоўгай адлігі беларуская мова й літаратура, якую я выкладаю, зноў не ў пашане. Колькасьць гадзінаў, на іх адпушчаных, катастрафічна скарачаецца й даводзіцца весьці дадаткова ўрокі фізкультуры. Так што мой тытул цяпер гучыць як "настаўнік беларускай мовы й фізкультуры". Але настаўніцкіх грошай таксама не стае й напалову жывем з сала й бульбы, якая сёлета, на жаль, не зарадзіла ва ўсёй Беларусі – мабыць, гэта таксама праява міжнароднага тэрарызму...

**Алесь Мазураў,** *Магілеўшчына*

*Уільям Оўэн*

# СЕМ КРЫВАВЫХ ГАЛОВАЎ

## (ДЗІЎНЫЯ ШКОЦКІЯ ГІСТОРЫІ)



Блізка ад берагу Лог Ойч стаіць незвычайны помнік, якія мае назву „Студня сямі крывавых галоваў”. На вяршыні манумэнту, зробленага з каменю, вісяць сем галоваў, пранізаных кінжалам. Гэты мэмарыял адлюстроўвае барбарскае злачынства ды, адначасова, барбарскую помсту.

Гэта зямля Макдоналяў. Макдоналі Гленгарскія — адгалінаваньне магутнага кляну Дональдаў, гэтаксама як і род Макдональдсаў Кіпахскіх, чые землі раскінуліся на колькі міляў на поўдзень з другога боку возера Лог Лог. У злачынства былі замешаныя абое адгалінаваньні кляну Дональдаў, хаця злачынства адбылося на тэрыторыі Кіпахаў, а Гленгар насіў тытул „Найлепшы з кляну Дональдаў”, таму што меў права прыводзіць правапарушальнікаў да суду.

Ахвярамі гэтага злачынства, якое было зьдзейсьненае каля 1663 году, сталіся два сыны Дональда Глаза, адзінаццатага старэйшага з роду Макдональдсаў Кіпахскіх. На той час, калі іхны бацька памёр сваёю, як усе звычайныя людзі, сьмерцю, гэтыя два маладзёны вучыліся ў школе на кантынэньце, куды былі пасланыя дзеля атрыманьня дыхтоўнай адукацыі, каб пасьля мець добрую пазыцыю ў якасьці будучых кіраўнікоў кляну Кіпахаў. Адразу-ж пасьля сьмерці старога Кіпаха сем сваякоў адсутных спадка-емцаў узялі на сябе кантоль над усімі маёнткамі ды насалоджваліся сілаю й павялічаным багацьцем, якое яны атрымалі. Вяртаньне з кантынэнту двух маладых сыноў памерлага старэйшага роду паставіла кропку ў іхным сьвяткаваньні, і яны дамовіліся паміж сабою пазбавіцца ад сваіх маладых сваякоў як мага хутчэй.

Адной ночы ачольнік аднаго з малодшых адгалінаваньняў Кляну Кіпахаў, разам са сваімі шасьцю сынамі, выправіўся з дому ў Інвэрлэйры. Пасьля пераправы ракі Сьпін, ніжэй замку Кіпахаў, яны хутка ўвайшлі ў замак ды ўваткнулі свае стрэлы ў старэйшага з братоў, што ўжо ляжаў у ложку. Ягоны брат Рональд знаходзіўся ў гэтым часе па-за мурамі замку, пачуў шум ды пасьпяшаў у замак, але быў таксама схоплены. Убачыўшы свайго дзядзьку, кінуўся быў да яго па паратунак, аднак дзядзька замест таго, каб дапамагчы, сам першы выпусьціў стралу проста ў сэрца пляменьніку. Перад тым, як зьбегчы дамоў у Інвэрлэйр, забойцы абрабавалі ўсе шафы ў замку.

Калі вестка пра забойства дасягнула Іайна Лома, барда з Кепочу, ён жорскім праклёнам пакляўся аб вендэце супраць забойцаў, нават калі-б яны былі сынамі ягоных уласных сясьцёр. Бард урачыста пакляўся ніколі ня мець спакою да таго часу, пакуль вінаватыя ў гэтым злачынстве ня будуць прыведзеныя да суду. Дастакова жорстка, але іншыя сябры кляну не былі так жорстка настроеныя. Яшчэ тады, калі двое маладых ачольнікаў кляну, выпраўленыя на працяглы тэрмін за мяжу, вярнуліся дадому, ачольнікі іншых кланаў сталі нагаворваць сваім сябрам, што яны былі ў краіне, якая мела непрыстойны лад жыцьця, а, асабліва, непапулярную палітыку. Бард, высьветліўшы, што ён ня можа спадзявацца на іх, зьвярнуўся да Макдонала Глянгарскага, далёкага сваяка забітых маладзёнаў, якому ён прапанаваў знайсьці забойцаў ды прывесьці іх да суду. Гленгары, між тым, ня меў ахвоты ўмешвацца, баючыся чальцоў іншага адгалінаваньня кляну. Узрушаны гэтым, Іайн Лом вырашыў зьвярнуцца да кіраўніка яшчэ аднаго кляну Дональдаў, сэра Аляксандра Макдональда Сьліцкага. Бард атрымаў добрую вестку ад яго і абяцаньне, што той пашле дастатковую колькасьць людзей у Глен Сьпін у поўнае распараджэньне й пад каманду Іайна Лома.

Сям'я палітычных забойцаў чакала помсты зь земляў Гленгары і не адрывала вачэй у накірунку бліжэйшага пагорку. Але Іайн Лом перахітрыў іх, дабраўшыся да Інвэрлэйра зь іншага боку. Сям'я паспрабавала забарыкадавацць свой дом, але нападнікі заатакавалі вельмі хутка. Сыны былі выцягнутыя на панадворак і забітыя. Дом быў падпалены. Спачатку бацьку не змаглі знайсьці, але Іайн Лом зьвярнуўся да сваіх саўдзельнікаў: „Шэсьць дзіцянятаў тут, але старая лісіца яшчэ ў логаве”. Пошукі працягваліся. Бацька быў знойдзены і яго напаткаў такі самы лёс, што й ягоных сыноў. Іайн Лом скарыстаўся маленькім кінжалам, каб адрэзаць галовы ад целаў, і апусьціў іх у торбу, якую панёс у Інвэргары. Там ён спыніўся каля крыніцы, што мела назоў Лох Ойч, і загадаў памыць свае скрываўленыя трафеі. Сёньня каля крыніца стаіць помнік „Студня Сямі Галоваў”. Пасьля адмыцьця галоваў Іайн Лом пайшоў у Замак Гленгараў, дзе паказаў свае трафеі старэйшаму, зьдзекаваючыся зь яго за тое, што той не прыняў ніякага ўдзелу ў прывядзеньні забойцаў да суду.

Неяк ў дзевятнаццатым стагодзьдзі адзін антыквар з Форту Уільям распачаў пошукі, ці сапраўды дэталі паданьня адпавядаюць праўдзе. Ён капаў на пагорку ў Інвэрлэйры, дзе, як казалі, былі пахаваныя целы сямёх забітых, і знайшоў там сем шкілетаў, у якіх не было чэрапаў.

Можа ўзьнікнуць маленькі сумнеў, што апісаная тут вендэта „вока за вока” і „зуб за зуб” адбылася сапраўды ў Гайлэндс (шкоцкай зямлі) у тыя дні, але шмат паданьняў распавядаюць пра жудасныя вендэты й пра чорныя крывавыя злачынствы, што сапраўды адбываліся.

*Пераклала*
*з ангельскай мовы*
***Лілія Сазанавец***

***Валеры Барташэвіч***

## МЫ

*Мы жывем між Эўропай і Азіяй,*
*Талерантнасьцю сьвет уразілі:*
*На базарах аўганцы і “азеры”,*
*Месхецінцы ў вёскі паўлазілі,*
*Пакістанцы ўжо межы зьбіваюць -*
*У Эўропу патрапіць жадаюць.*
*Не адно азіятаў навала,*
*Тут усякаму знойдзецца справа:*
*Хто чэчэнец, хай рэкетам займецца,*
*І таджыкам ня варта саромецца,*
*Хоць нядаўна ў Саюз уступілі,*
*Для наркотыкаў шлях расчынілі -*
*Без таможняў ён будзе, бяз пошлінаў,*
*У Эўропе мы тут не апошнія,*
*Ў нас свае наркаманы размножацца...*
*Хай-жа НАТА ад злосьці скукожыцца,*
*Не дазволім мы ім, акаянным,*
*Ставіць межы між брацьцяў-славянаў.*
*Праўда, ў Польшчы славяне таксама, -*
*Прамільгне ў кагось думка часамі, -*
*Хоць славяне, ды надта-ж фарсістыя...*
*Не, расейцы ўсё-ж больш славяністыя!*



# Шаноўныя чытачы!

Працяглы час не выходзіла газэта “Рунь”. Здарылася гэта пераважна праз матар'яльныя цяжкасьці, а таксама й ад жаданьня спыніцца на нейкі час ды падумаць, у якім кірунку рухацца далей. Не зважаючы на тое, што газэта йснуе ўжо больш за 5 гадоў, не адбылося значных якасных зьменаў, якія-б сьведчылі пра ейны сапраўдны рост і разьвіцьцё: не павялічваецца істотна кола падпішчыкаў у Літве й замежжы, ня знойдзеныя трывалыя сродкі для выданьня газэты, па-ранейшаму практычна не выплочваюцца ганарары аўтарам і зарплаты супрацоўнікам рэдакцыі, што не спрыяе прытоку сьвежых сілаў ні ў шэрагі аўтараў, ні ў рэдакцыйны калектыў, не стае сродкаў на ўтрыманьне інтэрнэт-старонкі “Руні” й г. д.

Зь іншага боку, за пяцігадовы тэрмін выдаваньня газэты склалася колечы-якое чытацкае кола ў Літве, Беларусі, замежжы. Пэўныя беларусы-замяжоўцы рэгулярна аказваюць нам грашовую дапамогу й больш чым на 50 адсоткаў пакрываюць выдаткі на выданьне газэты. (Сёньня на выданьне аднаго нумару газэты, разам з выдаткамі на ягоную рассылку, затрачваецца каля 400 USD). Арганізацыя-выдавец мае прыстойнае кампутарнае абсталяваньне.

Адчуваючы адказнасьць перад нашымі чытачамі ды разумеючы важнасьць адраджэньня беларускага друку менавіта ў Вільні, рэдакцыйны калектыў пастанавіў і надалей працягваць выданьне нашай і вашай газэты. Пастараемся, пачынаючы з гэтага нумару, выдаваць яе рэгулярна, раз на месяц, а вас, шаноўныя чытачы, просім больш уважліва паставіцца да пытаньня падпіскі на газэту – у тым ліку й чытачоў зь Беларусі. Падпішэцеся самі, падпішэце сваіх сяброў і знаёмых!

Часам мы задумваемся, што такое на сёньняшні дзень нашая газэта? Па-сутнасьці, гэта жывыя галасы жывых людзей, якія прыходзяць да нас з усяго беларускага сьвету. Кожнаму мы імкнемся даць мейсца на старонках “Руні”. Аднак паколькі нашыя аўтары не зьяўляюцца ў сваёй большыні журналістамі-прафэсыяналамі, нам заўсёды даводзіцца нешта правіць ды скарачаць. Таму вялікая просьба, калі вы ня згодныя, каб мы правілі й скарачалі вашыя тэксты, – папярэджвайце нас пра гэта ў сваіх допісах. Праўда, у такім выпадку мы пакідаем за сабою права выбару, друкаваць ці не друкаваць ваш матар'ял. Хочам таксама папярэдзіць, што згодна практыкі работы кожнай рэдакцыі дасланыя нам матар'ялы аўтарам не вяртаюцца (калі няма папярэдняй дамовы), таму перад адсылкаю рабіце копіі або пакідайце сабе арыгіналы. Просьба таксама дасылаць як мага больш разнастайных фатаграфічных ілюстрацыяў да тэкстаў – гэта зробіць газэту больш зьмястоўнай і весялейшай для ўспрыманьня.

### Умовы падпіскі:

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:
*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас у Менску:

*Сяргей Гут, 225710 Пінск-1, а/с 27.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас : *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 8**.

Адрасы для допісаў:
**«Рунь»**, 2001 Vilnius, a/d 1021.
**Ігар Перышч**, Брэсцкая 116-9, 225710 Пінск.
**e-mail: editor@runbel.lt**

### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| К. Акула з Канады | USD 30 |
| A. Nick з Амэрыкі | USD 30 |
| Р. Галяк з Амэрыкі | USD 50 |
| Л. Лабовіч-Колін з Амэрыкі | USD 50 |
| М. Грэбень з Амэрыкі | USD 50 |
| В. Кажан з Амэрыкі | USD 10 |
| М. Баяроўскі з Англіі | GBP 60 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis
выдаецца з 1997 году
выходзіць адзін раз у месяц
выдаўца
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
***«Дэмакратыя для Беларусі»***
адрас рэдакцыі:
Taikos, 50-29, 2017 Vilnius
тэлефон: (+ 370) 675 76991
факс: (+ 370 5) 242 38 02
**http:// www.runbel.lt**
*e-mail:* editor@runbel.lt
**Алег Мінкін** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
друкарня UAB «Infosiūlas», Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад **1000**